ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 32 (2590)

13 жніўня 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

У ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»

## ДЛЯ ДЗІЦЯЧАГА СЯБРОЎСТВА МЕЖЫ НЕ ІСНУЮЦЬ



За апошнія восем гадоў пасля распаду Савецкага Саюза і абвяшчэння Беларуссю свайго суверэнітэту гэта ўжо другое мерапрыемства таварыства "Радзіма" сумесна з Міністэрствам адукацыі ў арганізацыі адпачынку дзяцей нашых суайчыннікаў з-за рубяжа на іх бацькаўшчыне. Сёлета ў Лагойскі дом адпачынку прыехалі дзеці беларусаў з Малдовы і Прыднястроўя, Рэспублікі Комі і Ямала-Ненецкай аўтаномнай акругі, Башкартастана, Украіны і Літвы. Усяго радзіму сваіх бацькоў упершыню наведалі 53 хлопчыкі і дзяўчынкі ва ўзросце 12—14 гадоў.

У гэтым годзе Маргарыта Штабе са сваім

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

## ПАДАРОЖЖА Ў МІНУЛАЕ

У Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі сярод папераў, набытых у свой час у сваякоў вядомага заходнебеларускага дзеяча Янкі Шутовіча (ф. 23, "Калекцыя"), захоўваецца рукапіс на дзесяці аркушах вельмі вялікага фармату, спісаных драбнюткім, але прыгожым і чытэльным почыркам. Чорнае чарніла крыху парыжэла ад часу. На паперовай абгортцы рукой Шутовіча напісана простым алоўкам: "Паддубіч Антон". Гэтае ж прозвішча прастаўлена самім аўтарам зверху на першай старонцы рукапісу. Ёсць тут і назва: "З маіх вандровак па Вялейшчыне". Перад намі надзвычай цікавае апісанне вандроўкі аўтара пешкі з Вілейкі на Даўгінаў і адтуль — у Будслаў. Гэта сённяшнія Вілейскі і Мядзельскі раёны. Вандроўка гэтая адбылася "за польскім часам", і хоць дата на рукапісе нідзе не пазначана, але можна з упэўненасцю сказаць, што адбывалася ўсё не раней 1932 года, бо ў рукапісе згадваецца перадача ў Савецкі Саюз — у парадку абмену палітвязнямі — вядомага дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі Флягонта Валынца, а было гэта, як вядома, у 1932 годзе.

Хто такі Антон Паддубіч, на жаль, нам высветліць пакуль не ўдалося. Магчыма, гэта псеўданім. Не далі рады ў расшыфроўцы гэтага імя такія знаўцы нацыянальнай культуры, як Арсень Ліс, Адам Мальдзіс і Янка Саламевіч, да якіх мы звярнуліся па дапамогу. Вядома толькі, што ў неперыядычным выданні эсэраўскага кірунку "Сялянская доля", сем нумароў якога выйшла ў 1921—1922 гадах, з палымянымі заклікамі да сялян Заходняй Беларусі змагацца супраць польскай акупацыі за незалежнасць роднага краю выступаў нехта Паддубіч (імя не пазначана). Так што тут патрэбны яшчэ дадатковыя росшукі. Магчыма, у гэтым нам дапамогуць чытачы "Голасу Радзімы".

З тэксту нарыса відаць, што аўтар родам з-пад Вілейкі, у маладыя гады быў "студэнтам-тэхнікам". Добра адчуваецца яго далучанасць да беларускага нацыянальнага руху. Ён быў сапраўдным патрыётам сваёй Радзімы, верыў у яе лепшую будучыню.

У нарысе рэльефна паказана жыццё Заходняй Беларусі ва ўмовах польскай акупацыі — беднасць, бяспраўе беларускага селяніна, планамерная паланізацыя, усялякі прыгнёт з боку мясцовых улад. Ёсць тут і цікавыя этнаграфічныя назіранні, замалёўкі фальклорнага характару.

У тэксце сустракаюцца рэдакцыйныя праўкі ліловым алоўкам, відаць, рукапіс рыхтаваўся да друку, магчыма, у часопісе "Калоссе", які выдаваў Я. Шутовіч. Але звестак аб яго публікацыі няма. Можа, гэтаму перашкодзіла вастрыня зместу.

Пры падрыхтоўцы нарыса да публікацыі мы захавалі правапіс аўтара, праставіўшы толькі дзе-нідзе знакі прыпынку і папраўшы апіскі. Мы стараліся прытрымлівацца аўтарскага тэксту, рэдактарскія праўкі, як правіла, не ўлічваліся. У тэксце сустракаюцца польскія выразы і паасобныя словы, пераклад якіх зроблены намі. Спадзяемся, што чытачы "Голасу Радзімы" з цікавасцю пазнаёмяцца з гэтым нарысам, адчуюць атмасферу ўжо досыць далёкіх ад нас трыццатых гадоў.

**Яніна КІСЯЛЁВА.**

(Нататкі Антона ПАДДУБІЧА пачынаем друкаваць на 4-й стар.).

СУЧАСНЫ ЛІДЭР НАВУКОВАГА НАПРАМКУ

## З ПРАФЕСАРАМ ПРЫЕМНА МЕЦЬ СПРАВУ

Летась у Мінску праходзіла міжнародная канферэнцыя па адной з самых сучасных і карысных для ўсяго грамадства праблем — распазнаванні вобразаў і апрацоўцы графічных выяў, якія называюць больш лаканічна відарысамі. Кожнаму з нас даводзілася чуць і чытаць пра сістэмы распазнавання тэксту, сімвалаў, дакументаў, адбіткаў пальцаў, слядоў нябесных цел і касмічных аб'ектаў, а таксама апрацоўкі схем, чарцяжоў, карт, рэнтгенаграм і тамаграм, аэра- і касмаздымкаў зямной паверхні і г. д.

А як геафізіку па атрыманаму сігналу адрозніць, знойдзены нафтавы пласт ці солевы раствор? Якім элементарным часцінкам належаць трэкі ў ядзерна-фізічных эксперыментах? Можна называць яшчэ безліч прыкладаў. Якім чынам расшыфроўваюцца моўныя і іншыя сігналы рознага паходжання? Якія метады выкарыстоўваюцца ў складаных сістэмах, што імітуюць зрокава-мысліцельны і моўна-слыхавы комплексы чалавека (нагадаем, што каля 80 працэнтаў інфармацыі чалавек успрымае па зрокаваму каналу)? Такія сістэмы функцыяніруюць у аўтаматычным рэжыме альбо з удзелам чалавека, і тады яны называюцца аўтаматызаванымі.

Над праблемамі распазнавання вобразаў і апрацоўкі відарысаў працуюць сёння, фігуральна кажучы, лепшыя сілы навуковага свету. Ёсць уражальныя вынікі, а яшчэ больш іх наперадзе. Поспехі беларускіх вучоных у гэтым найноўшым і важным накірунку кібернетыкі і інфарматыкі прызнаны ў свеце. І таму на канферэнцыю пад назваю "Распазнаванне вобразаў і апрацоўка інфармацыі" (скарочана "PRIP'97") чакаўся прыезд многіх вядомых замежных гасцей і беларускіх спецыялістаў.

Канферэнцыя традыцыйная, бо па ліку ўжо чацвёртая. Папярэднія тры праводзіліся таксама ў Мінску з перыядычнасцю ў два гады. Асноўнымі арганізатарамі канферэнцыі па злабадзённых і актуальных праблемах кібернетыкі і інфарматыкі выступаюць Інстытут тэхнічнай кібернетыкі (ІТК) Акадэміі навук Беларусі, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Інстытут камп'ютэрных навук і інфармацыйных сістэм Шчэцінскага тэхнічнага універсітэта (Польшча) і Беларуская асацыяцыя па аналізу і распазнаванню відарысаў (БААРВ).

Канферэнцыі праводзяцца па чарзе ў ІТК і БДУ. Гэтым разам гасцей прымаў БДУ. Яго прадстаўнік У. Краснапрошын з'яўляўся старшынёй канферэнцыі. Таму, каб задаволіць сваю цікаўнасць, я прыйшоў да будынка былой вышэйшай партыйнай школы, а зараз філалагічнага корпуса БДУ. У холе за сталамі сядзелі пераважна супрацоўнікі аргкамітэта: усе ўдзельнікі ў асноўным былі ўжо ў зале. Паглядзеў на дошках праграму канферэнцыі, падзівіўся вялікай колькасці секцый — іх было ажно 9, ды кожная секцыя з гучнай назвай, актуальнай тэматыкай, сваім накірункам — і яшчэ большай колькасці дакладаў, назвы якіх значыліся прыкладна пароўну на рускай і англійскай мовах (як удакладнілі ў аргкамітэце, на англійскай было больш паловы). Прычым на англійскай мове я бачыў і шмат знаёмых прозвішчаў беларускіх навукоўцаў. Атрымаў матэрыялы канферэнцыі ў двух тамах. Звычайна ўжо па знешнім выглядзе такіх матэрыялаў можна вызначыць грунтоўнасць і сур'ёзнасць праводзімага мерапрыемства: тэзісы дакладаў на старонку-дзве, больш пашыраныя матэрыялы дакладаў ці поўны іх тэкст. Кнігі, якія я трымаў у руках, былі важкія, яны ўтрымлівалі пашыраныя тэзісы на пяці старонках. Звяртаю ўвагу на рэдкалегію абодвух тамоў: знаёмыя прозвішчы прафесараў з Беларусі і Польшчы: С. Абламейка, У. Краснапрошын, Ю. Солдэк, У. Шмярко. Першы том выдадзены на англійскай мове ў Шчэціне, другі — на рускай і англійскай мовах у Мінску.

...На трыбуну хутка ўзбег энергічны, хударлявы сустаршыня канферэнцыі прафесар Сяргей Абламейка, доктар тэхнічных навук з ІТК. Як прэзідэнт БААРВ, ён адзначыў, што арганізацыя міжнароднай канферэнцыі "PRIP" і каардынацыя работ у Беларусі ў галіне апрацоўкі відарысаў адносяцца да найважнейшых мерапрыемстваў асацыяцыі. Даная канферэнцыя праводзіцца ўпершыню пад эгідай Міжнароднай асацыяцыі па распазнаванню вобразаў (IAPR), аўтарытэтнай і ўплывовай арганізацыі, якая аб'ядноўвае даследчыкаў і спецыялістаў звыш 30 краін, у тым ліку ўсіх высокаразвітых. Гаварыў С. Абламейка лёгка, нязмушана, свабодна валодаючы англійскай мовай. Здавалася, што для яго гэта звыклая з'ява і што яму даводзіцца часта выступаць з дакладамі і прамовамі на англійскай мове. Так яно і было на самай справе.



**Лондан. 1994. Кіраўніцтва Міжнароднага таварыства па электратэхніцы вітае старшыню Беларускага цэнтра IEE Сяргея АБЛАМЕЙКУ (справа).**

На канферэнцыі С. Абламейка

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

КРОК НАСУСТРАЧ

## УЛАДА І ПІСЬМЕННІКІ



Больш за чатыры гадзіны замест дзвюх запланаваных доўжылася сустрэча Прэзідэнта краіны А. Лукашэнкі з Радай Саюза пісьменнікаў Беларусі, абранай апошнім з'ездам гэтай творчай суполкі. Кіраўнік дзяржавы адразу ж акрэсліў прынцыпы, на якіх ён гатовы весці размову: абсалютная шчырасць, павага адзін да аднаго, а найперш — да волі народа і яго выбару.

Вострых пытанняў у абодвух бакоў назбіралася нямала. Які лад будуем у суверэннай дзяржаве! Ці належнае месца займае ў грамадстве беларуская мова, гісторыя, культура! Чаму здаровая беларушчына выглядае ў вачах асобных чыноўнікаў апазіцыйнай! Закрануліся і іншыя, на першы погляд, больш дробныя, але не менш балючыя праблемы: лёс пісьменніцкай маёмасці, узаемааадносіны са службовымі асобамі, дэфіцыт інфармацыі аб працэсах у грамадстве, які ўтварыўся вакол пісьменніцкага асяродка. Гэтыя і шмат іншых пытанняў ставілі перад Прэзідэнтам многія ўдзельнікі сустрэчы.

Прэзідэнт ад палемікі не хаваўся і вельмі шчыра выклаў прынцыпы сваёй палітыкі, у тым ліку і ў сферы мастацкай творчасці. З адказаў вынікала, што ён ні на крок не адыходзіць ад сваёй праграмы, з якой ішоў на выбары, што замацаванае ў Канстытуцыі двухмоўе і ёсць аснова для натуральнага, а не штучнага адраджэння беларускай мовы ў грамадстве, што ніводнага пісьменніка нельга прымусіць стварыць па загаду, але дзяржаўная падтрымка чыёйсці творчасці магчымая толькі на прынцыпах узаемнасці.

Многае з адказаў А. Лукашэнкі, па словах пісьменнікаў, значна пашырыла іх уяўленне аб тым, што адбываецца ў Беларусі і вакол яе. Напрыклад, удзельнікі гутаркі даведаліся, што заходнія крэдыты Расіі ўвязваюцца зараз з патрабаваннем правядзення Крамлём больш жорсткай эканамічнай палітыкі ў адносінах да нашай рэспублікі.

— Справа творцаў — ствараць. У гэтым пісьменнік праяўляецца і як палітык, а не ў пустой мітынгоўшчыне, — упэўнены Прэзідэнт. Ён цвёрда абяцаў падтрымку беларускім літаратурным талентам, але выяўляць іх павінны не чыноўнікі ад культуры, а самі пісьменнікі.

Наўрад ці А. Лукашэнка пагодзіцца з усімі меркаваннямі і прапановамі ўдзельнікаў сустрэчы: шэраг з іх ён ацаніў як "крайнія". Наўрад ці ўсе пісьменнікі згодныя з кожнай ацэнкай Прэзідэнта. Ад адной сустрэчы, як вядома, адзінства думак не ўзнікае. Але галоўнае ў тым, што ўлада і літаратары зрабілі ўрэшце доўгачаканы крок насустрач, да ўзаемнага разумення.

— Мне здаецца, што з сённяшняй сустрэчы пачынаецца адраджэнне Саюза пісьменнікаў Беларусі, — выказаў сваё меркаванне аб гутарцы ў Прэзідэнта вядомы празаік І. Шамякін.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.

Мікалай ТОЎСЦІК.
("Народная газета").
Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.

АПЫТАННІ

## ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ І СУПРАЦОЎНІЦТВА

62 працэнты жыхароў Мінска выступаюць за незалежнасць Беларусі і супрацоўніцтва з Расіяй. Пра гэта сведчаць даныя, прадастаўленыя Інтэрфаксу Мінскім навукова-даследчым інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем, якія апыталі ў ліпені 1 000 жыхароў сталіцы Беларусі.

За супрацоўніцтва з заходнімі краінамі выказаліся 34,8 працэнта апытаных.

За эканамічны Саюз Расіі і Беларусі выступаюць 58,4 працэнта рэспандэнтаў. За аднаўленне створанай пры сацыялізме сацыяльнай абароны насельніцтва — 52 працэнты.

15,5 працэнта апытаных выказаліся за аб'яднанне з Расіяй у адну дзяржаву.

Больш як 60 працэнтаў мінчан станоўча ацэньваюць палітычную абстаноўку ў сталіцы Беларусі, у тым ліку 8,1 працэнта лічаць, што яна цалкам задавальняючая, 52,6 працэнта — у цэлым спакойная.

У той жа час 36,7 працэнта жыхароў Мінска, якія прынялі ўдзел у сацыялагічным даследаванні, лічаць, што сітуацыя пагоршылася, 41 працэнт не бачаць прыкмет яе пагаршэння.

Абстаноўку ў Мінску назвалі напружанай 25,2 працэнта рэспандэнтаў, крытычнай і выбухованебяспечнай — 5,4 працэнта.

ВЫСТАВА

## БЕЛАРУСЬ НА «ЭКСПО-98»

Звыш пяцісот тысяч чалавек ужо наведалі беларускую экспазіцыю на сусветнай выставе "ЭКСПО-98" у Лісабоне. На ёй наша краіна прадстаўлена ўпершыню.

Хоць у экспазіцыі ўдзельнічаюць 146 краін свету, беларускія экспанаты выклікаюць велізарную цікавасць у наведвальнікаў. У чатырох раздзелах Беларусь дэманструе дасягненні прамысловасці і навукі, расказвае аб экалогіі, гісторыі і культуры дзяржавы.

Для большасці наведвальнікаў выставы знаёмства з беларускай экспазіцыяй — гэта першая сустрэча з нашай краінай.

Найбольшую цікавасць у прадстаўнікоў замежных дзелавых колаў выклікае прадукцыя трактарнага, аўтамабільнага, металургічнага і падшыпнікавага заводаў. Некаторыя прадпрымальнікі выказалі жаданне наладзіць прамыя кантакты з беларускімі дрэваапрацоўчымі прадпрыемствамі.

СТАТЫСТЫКА

## ЗАТРЫМЛІВАЕЦЦА ЗАРПЛАТА

Як нам паведамілі ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу, за апошні месяц сума запазычанасці па заробках узрасла больш чым у 1,2 раза і дасягнула па стану на 25 ліпеня "рэкорднай" за ўсе гады адзнакі — 1 трыльён 704,4 мільярда рублёў. Зараз у цэлым па краіне затрымкі складаюць ужо 14 працэнтаў ад месячнага фонду аплаты працы, або, інакш кажучы, своечасова не выплачваецца амаль кожны сёмы зароблены рубель, а ў Брэсцкай і Магілёўскай абласцях нават кожны пяты.

Невялікія зрухі да лепшага адбыліся хіба што ў сферы аховы здароўя і навукі. Па ўсіх астатніх асноўных галінах народнай гаспадаркі сума даўгоў істотна пайшла ўгору.

ПАМЯЦЬ



3 жніўня на Востраве смутку і слёз у Мінску адбыўся мітынг, прысвечаны 2-годдзю адкрыцця помніка воінам-інтэрнацыяналістам, якія загінулі ў Афганістане.

НА ЗДЫМКУ: у час мітынгу.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.

КЕРАМІКА

## ПРЫЗ «ЗАЛАТЫ АРОЛ»

Аргкамітэт міжнароднай праграмы "Партнёрства дзеля прагрэсу" ўзнагародзіў радашковіцкае акцыянернае таварыства "Беларуская мастацкая кераміка" прызам "Залаты арол", які быў уручаны ў Ніцы яго генеральнаму дырэктару Мікалаю Кладаву.

У Радашковічах вырабляецца амаль палавіна ўсіх беларускіх керамічных вырабаў. Прадукцыя мясцовых майстроў уражвае сваёй шматвобразнасцю і арыгінальнасцю. Разам з традыцыйнымі тут шырока выкарыстоўваюцца сучасныя тэхналогіі. "Беларуская мастацкая кераміка" ўпэўнена адчувае сябе ў новых эканамічных умовах. Прадукцыю прадпрыемства можна сустрэць у розных абласцях Расіі, а таксама ў Германіі, Чэхіі і нават у Саудаўскай Аравіі.

ГАРАДЫ

## ЮБІЛЕЙ БЕЛААЗЁРСКА

Аднаму з самых малады беларускіх гарадоў споўнілася 40 гадоў. У апошніх чыслах ліпеня 1958 года практычна ў чыстым полі была пачата ўкладка фундамента шасцікватэрнага дома — так быў закладзены першы камень будучага горада.

Сёння зялёны і ўтульны 13-тысячны Белаазёрск вядомы ў рэспубліцы не толькі горадаўтвараючай гідраэлектрастанцыяй, але беларуска-іспанскім прадпрыемствам "Белкельме", цікавым прафтэхвучылішчам, а яшчэ — людзьмі.

"УРАДЖАЙ-98"



У саўгасе "Бялевічы" Магілёўскага раёна ўсе восем камбайнаў "Дон-1500" працуюць без паломак, дажджы і вятры не выклікалі палегласці збожжа. Не менш 25 цэнтнераў збожжа з кожнага з 1 800 гектараў разлічваюць атрымаць у гаспадарцы.

НА ЗДЫМКУ: першае збожжа гэтага года.

Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.

МУЗЫКА

## ПЕРАМОЖЦА МІЖНАРОДНАГА КОНКУРСУ

Упершыню на прэстыжным музычным спаборніцтве свету — Міжнародным конкурсе піяністаў імя Вільяма Капэла, які праводзіцца Мерылендскім універсітэтам ЗША, атрымаў перамогу прадстаўнік Беларусі. Журы назвала лепшым студэнта чацвёртага курса Беларускай акадэміі музыкі, стыпендыята спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Андрэя Паначэўнага. Цяпер піяніст многа канцэртуе не толькі ў нашай рэспубліцы, але і ў Расіі, Германіі, Польшчы, Украіне, Чэхіі. Радыёстанцыі многіх еўрапейскіх краін пастаянна транслююць запісы музычных твораў у яго выкананні. У Польшчы выдадзены кампакт-дыск запісаў лепшых выканаўцаў-піяністаў конкурсу імя Ф. Шапэна, у тым ліку і Андрэя Паначэўнага.

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

ПЕРШАЕ беларускае прадпрыемства, якое паставіла на свой тавар айчынны штрыхавы код, — Барысаўскі завод медыцынскіх прэпаратаў. Цяпер на прадукцыі і іншых нашых вытворцаў з'явіцца новы прэфікс — 481: Беларусь атрымала права на ўласнае абазначэнне выробленай на яе тэрыторыі прадукцыі.

БОЛЬШ ПАЛАВІНЫ разведаных у Беларусі падземных крыніц вады па сваіх прыродных якасцях не адпавядае санітарна-гігіенічным нормам. Як паведамілі ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, у сувязі з гэтым ужо давялося ліквідаваць шчыліны ў Барысаве, Навагрудку, Слоніме і іншых гарадах.

ВАНДАЛЫ на могілках Асаўцы каля Гомеля разбурылі каля 90 надмагільных помнікаў, апаганілі многія магілы. Гэта адны з прэстыжных могілак абласнога цэнтра, дзе пахаваны заслужаныя людзі горада, ветэраны вайны і працы.

МІЖНАРОДНЫ фонд садзеяння барацьбе з арганізаванай злачыннасцю з'явіўся ў Беларусі. Усе дакументы, што тычацца яго дзейнасці, ужо зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі рэспублікі. Ініцыятарамі стварэння фонду выступілі грамадзяне Беларусі, Расіі, Галандыі і Германіі.

"ЗАЛАТЫМ" сюрпрызам можна назваць выступленне ў Францыі на чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы сярод юніёраў беларускай спартсменкі Надзеі Астапчук. Яна заваявала вышэйшую ўзнагароду сусветнага першынства і стала лідэрам сезона ў спаборніцтвах па штурханню ядра.

УПЕРШЫНЮ ў сучаснай гісторыі Беларусі скараціўся разрыў паміж смяротнасцю і нараджальнасцю.

Праўда, натуральны прырост насельніцтва, паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, пакуль што па-ранейшаму фіксуецца на адмоўнай адзнацы. У першым паўгоддзі суадносіны паміж смяротнасцю і нараджальнасцю наступныя: 100 чалавек памерла — 96 нарадзілася.

# З ПРАФЕСАРАМ ПРЫЕМНА МЕЦЬ СПРАВУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

быў аўтарам двух дакладаў сумесна з італьянскімі даследчыкамі па лічбавай апрацоўцы графічных выяў з выкарыстаннем спосабаў дэкампазіцыі буйнафарматных выяў складанай структуры. Цікавасць у прысутных выклікалі таксама работы па распазнаванні дакументаў, выкананыя калектывам пад кіраўніцтвам С. Абламейкі.

У лабараторыі ІТК, загадчыкам якой з'яўляецца С. Абламейка, удзельнікі канферэнцыі азнаёміліся са шматлікімі і унікальнымі распрацоўкамі, што прынеслі ёй вядомасць сярод спецыялістаў: дзеючымі сістэмамі лічбавай картаграфіі, аўтаматызаванай апрацоўкі аэрафотаздымак і іншых выяў, новымі тэхналогіямі ўводу, апрацоўкі і прадстаўлення графічнай інфармацыі складанай формы. Сістэмы выкарыстоўваюцца ў расійскіх ваенных цэнтрах і на многіх грамадзянскіх прадпрыемствах Расіі, Украіны, Беларусі.

Мне прыходзілася неаднойчы чытаць аб навуковых поспехах і выніковым міжнародным супрацоўніцтве акадэміка Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій і Беларускай інжынернай акадэміі Сяргея Абламейкі. Ён лаўрэат некалькіх прэмій. Носьбіт ганаровых званняў прэстыжных навуковых таварыстваў. Аўтар шматлікіх прац, у тым ліку дзвюх кніг і каля 70 іншых навуковых прац на англійскай мове, якія апублікаваны ў міжнародных часопісах і матэрыялах буйных міжнародных сімпозіумаў і канферэнцый. У чым сакрэт яго дасягненняў як навукоўца і сімпатычнага, вельмі рухавага, маладога яшчэ чалавека, прадстаўніка новай генерацыі беларускіх кібернетыкаў? Дзе яго карані? Якое атрымаў ён выхаванне, адукацыю, хто быў для яго настаўнікам?

Аднак перадусім некалькі слоў пра апошнюю манаграфію Сяргея "An introduction to interpretation of Graphic images" ("Уводзіны ў распазнаванне графічных выяў"), якую ён напісаў па-англійску і якая выдадзена ў ЗША ў мінулым годзе выдавецтвам SPIF Press і з'яўляецца першай у свеце кнігай па данай праблематыцы. Нездарма ж у сябе на радзіме яна прызнана ў пачатку 1998 года пераможцай першага конкурсу на лепшую навуковую работу ў аддзяленні фізікі, матэматыкі і інфарматыкі НАН Беларусі па намінацыі манаграфій. Да месца будзе сказаць, маючы на ўвазе ўзровень выкананых у лабараторыі работ, што навуковы супрацоўнік Д. Лагуноўскі (у пачатку сёлетняга года абараніў кандыдацкую дысертацыю пад кіраўніцтвам С. Абламейкі) перамог сярод маладых навукоўцаў АФМІ.

Між іншым, названая манаграфія С. Абламейкі з'яўляецца адзінай кнігай беларускага аўтара, якая апублікавана ў мінулым годзе ў ЗША. Аб гэтым факце сведчыць той раздзел штогадовага выдання пад назвай "Справаздача аб дзейнасці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў 1997 годзе", дзе гаворыцца аб прызнанні ў краінах блізкага і далёкага замежжа дасягненняў беларускіх вучоных.

* * *

Сяргей нарадзіўся 24 верасня 1956 года ў гарадскім пасёлку Воранава на Гродзеншчыне. Бацькі яго паходзілі з Карэліцкага раёна (маці з Міра, бацька з вёскі Кожава), вучыліся ў адным класе ў Мірскай сярэдняй беларускай школе, а потым у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Пасля сканчэння іх, ужо жанатых, накіравалі на працу ва ўпраўленне сельскай гаспадаркі Воранаўскага райвыканкома. Яны былі прыкметнымі ў раёне спецыялістамі: Уладзімір Іванавіч — галоўным інжынерам-землеўпарадчыкам, Тамара Іосіфаўна — начальнікам насеннай інспекцыі. Сяргей рана навучыўся гуляць у шахматы, удзельнічаў у спаборніцтвах сярод школьнікаў на розных узроўнях, быў чэмпіёнам раёна і ў старшым класе меў ужо першы разрад. Захапленне гэта перадалося яму ад бацькі, спакойнага, разважлівага, разумнага чалавека, які быў улюбёны ў родны край, часта браў з сабой старэйшага сына падчас паездак па каморніцкіх справах па прыгожых кутках раёна. Ад яго Сяргей пачуў нямала цікавага аб жыцці свайго дзеда і незайздросным лёсе многіх вяскоўцаў у 30—40-х гадах. Бацькі — дзеці вайны, іх падлеткавая памяць захавала шмат чаго з убачанага і перажытага...

Дзед Сяргея з боку бацькі ваяваў на франтах з першых дзён Вялікай Айчыннай, паранены пры вызваленні Прагі. Другі дзед разам з сям'ёю быў у партызанах. Для бацькоў Сяргея час "першых саветаў" (верасень 1939 — чэрвень 1941) атаясамліваўся з пачаткам вучобы ў беларускіх школах, у якія з радасцю і энтузіязмам пайшла ўся дзятва. Іншы раз толькі можна было пачуць ад дзяцей і дарослых, што вылоўліваюць і высылаюць некуды паноў, ксяндзоў, асаднікаў, старастаў, прадстаўнікоў польскай улады. Запомніліся жудасныя карціны вайны: адыход чырвонаармейцаў, шмат пакінутай тэхнікі і зброі, акружэнцы, зверствы акупантаў.

Найбольш трывожнымі і запамінальнымі ў пасляваенным жыцці былі гады вынішчэння аднаасобнага сялянства. Адлучэнне селяніна ад зямлі праводзілася гвалтоўна, шляхам запалохвання і пагроз. Аб гэтым неаднойчы гутарылі бацькі ў хаце, абмяркоўваючы справы ў раёне і краіне, пастаянныя цяжкасці ў сельскай гаспадарцы і несумленныя, абыякавыя адносіны да зямлі і працы на ёй.

Шкада, што бацька не дажыў з-за невылечнай хваробы і да 60-ці год. Сяргей падтрымліваў яго як толькі мог: прывозіў лекі з-за мяжы, уладкоўваў да ўрачоў у бальніцы ў Гродне і Мінску.

Паездкі з маці па раёне падабаліся Сяргею яшчэ больш. За Тамарай Іосіфаўнай быў замацаваны газік, на якім яна ездзіла правяраць усходжасць раслін. Больш за 30 год яна была энергічным, дзелавым кіраўніком насеннай інспекцыі, таварыскім, гаваркім чалавекам, падтрымлівала добрыя адносіны з многімі людзьмі. З ёю Сяргею было цікава, бо часта заязджалі ў лес па ягады і грыбы, на рэчку, любаваліся краявідамі і пасевамі, што калыхаліся пад ветрам. Другая сусветная вайна параскідала яе сям'ю па ўсім свеце, родныя яе жывуць у Польшчы, Амерыцы і іншых краінах.

Бацькі ўдзялялі шмат увагі сваім дзецям, стараліся даць ім вышэйшую адукацыю і паставіць на ногі. Іх першынец вучыўся выдатна, меў схільнасці да матэматыкі і англійскай мовы, дапамагаў малодшым братам у вучобе, назіраў за імі падчас купання і рыбалкі на рэчцы Жыжма, правым прытоку Нёмана. Сумненняў, куды паступаць вучыцца, не было. Скончыўшы школу на выдатныя адзнакі і набраўшы 24 балы з 25, Сяргей стаў у 1973-м студэнтам механіка-матэматычнага факультэта БДУ. Вучыўся добра і ў канцы чацвёртага курса быў размеркаваны ў Інстытут тэхнічнай кібернетыкі Акадэміі навук Беларусі. На пятым курсе, з кастрычніка 1977 па чэрвень 1978, праходзіў вытворчую і перадддыпломную практыку ў ІТК і быў залічаны на пасаду інжынера. Сюды ж прыйшоў на працу пасля заканчэння БДУ ў жніўні 1978 года і стаў займацца пытаннямі геаметрычнага мадэлявання аб'ектаў у сістэмах аўтаматызацыі праектавання. Яго дыпломная работа была апублікавана ў 1979 годзе ва ўсесаюзным навукова-тэхнічным зборніку "Вылічальная тэхніка ў машынабудаванні" і была ўдастоена ўзнагароды інстытута за першую навуковую публікацыю сярод маладых навукоўцаў.

Колькасць навуковых прац Сяргея пачала расці, і, улічваючы яго схільнасць да навуковых даследаванняў, дырэктар ІТК прапанаваў Сяргею паступаць у аспірантуру.

Аспірантура была скончана, ён паспяхова абараняе кандыдацкую дысертацыю ў славутым Інстытуце кібернетыкі імя акадэміка В. Глушкова Украінскай акадэміі навук. У тым жа годзе надрукавана сумесна з навуковым кіраўніком А. Семянковым першая кніжка "Методы и алгоритмы обработки растровой графической информации".

Час для яго як бы спрасаваўся, ушчыльніўся, так інтэнсіўна прыходзілася яму працаваць. Праз год прызначылі кіраваць групай супрацоўнікаў лабараторыі, і яшчэ праз год вучоны савет інстытута абраў па конкурсу загадчыкам лабараторыі, якая вывучала праблемы апрацоўкі відарысаў. Так Сяргей стаў самым маладым загадчыкам навуковай лабараторыі ў Акадэміі навук Беларусі.

Трэба сказаць, што менавіта ў тыя гады інстытут выконваў важнае абароннае заданне (не сакрэт, што на гэтыя мэты працавала ў той час шмат навукоўцаў). Не апошнюю ролю тут, а з цягам часу ўсё большую і большую адыгрывалі вынікі, атрыманыя С. Абламейкам. Яго лабараторыя выконвала кіруючую ролю ў шэрагу такіх праектаў. Працавалі ж яны над тэхналогіямі стварэння лічбавых карт мясцовасці і апрацоўкі фатаграфічных здымкаў зямной паверхні, атрыманых з космасу.

Цяжкія праблемы пастаянна паўставалі перад распрацоўшчыкамі. Асабліва складанай уяўлялася задача ўшчыльнення, сціскання інфармацыі, як кажуць кібернетыкі, каб гэты велізарны яе аб'ём займаў, па-першае, менш камп'ютэрнай памяці і, па-другое, патрабаваў менш часу на яе апрацоўку. Выканаўцам, у тым ліку і Сяргею, удалося распрацаваць такія метады, алгарытмы і ў канчатковым выглядзе такую тэхналогію апрацоўкі відарысаў і распазнавання вобразаў, якія дазволілі існуючым камп'ютэрам выконваць прад'яўленыя функцыі. Гэта было значным дасягненнем беларускіх кібернетыкаў, якім можна ганарыцца і якое было пазней па праву ацэнена.

Яго, маладога загадчыка лабараторыі, падтрымаў новы дырэктар інстытута В. Танаеў, які адыграў у далейшым вялікую ролю ў станаўленні С. Абламейкі ў якасці вучонага вышэйшай кваліфікацыі і ў далучэнні яго да інтэнсіўнага і плённага міжнароднага навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва. Менавіта В. Танаеў, абдумваючы ў 1987 годзе стратэгію развіцця інстытута на бліжэйшыя гады, прадбачліва вырашыў накіраваць найбольш здольных і перспектыўных маладых навукоўцаў у працяглыя камандзіроўкі ў розныя замежныя краіны (Англію, Германію, Італію, Галандыю, Францыю).

Сяргей у першую сваю замежную камандзіроўку трапіў у Італію ў 1988 годзе. Там, у інстытуце кібернетыкі, за 3 месяцы яму ўдалося наладзіць прыязныя адносіны з італьянскімі калегамі, што працуюць у галіне распазнавання вобразаў і апрацоўкі відарысаў. Італьянскія навукоўцы, пераканаўшыся ў кампетэнтнасці і глыбокіх ведах свайго госця з Беларусі, выступілі з прапановай аб двухбаковым супрацоўніцтве і стварэнні сумеснага калектыву. І сапраўды, з наступнага 1989 года стала працаваць сумесная беларуска-італьянская лабараторыя, кіраўніком якой з беларускага боку стаў Сяргей Абламейка.

У 1989 годзе ў выдавецтве "Навука і тэхніка" выходзіць манаграфія Сяргея і яго калег "Обработка и отображение информации в растровых графических системах". Пасля гэтага дырэктар інстытута В. Танаеў параіў яму аформіць доктарскую дысертацыю. Сяргей (а тады яму споўнілася 34 гады) стаў самым маладым доктарам навук у Беларусі на той час, а затым і самым маладым прафесарам пасля прысваення яму вучонага звання прафесар у 1992 годзе. Да месца будзе адзначыць, што сярэдні ўзрост дактароў навук у 1997 годзе ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі складаў 58 гадоў.

* * *

Міжнародная дзейнасць С. Абламейкі паспяхова развівалася, пачалі публікавацца першыя працы на англійскай мове ў міжнародных выданнях. Акадэмія навук СССР накіравала яго на стажыроўку ў Швецыю і Фінляндыю, але найбольш значнай падзеяй у той час стала запрашэнне японскіх вучоных з Кюсю інстытута тэхналогій прыехаць і папрацаваць з імі, што стала яшчэ адным прызнаннем высокага міжнароднага ўзроўню работы Сяргея і яго калег. Гэта запрашэнне было прынята, і ён правёў 4 месяцы ў 1991 годзе ў Японіі, працуючы разам з японскімі калегамі. Гэта зноў дало добры вынік, і пасля паездкі было апублікавана каля дзесятка сумесных работ, уключаючы два артыкулы ў самых прэстыжных навуковых часопісах па гэтай тэматыцы. Супрацоўніцтва працягваецца і да цяперашняга часу. Сяргей пазней зноў наведваў Японію, і, напрыклад, у доктарскай дысертацыі С.—І. Каматы, абароненай у 1994 годзе, выказваецца глыбокая падзяка прафесару С. Абламейку за ўклад і дапамогу, якая таму была аказана. Трэба дадаць, што падобныя словы з падзякай С. Абламейку напісаны ў доктарскай дысертацыі І. Рагнемальма з універсітэта горада Лінчэпінга (Швецыя) і Дж. Саўолы з універсітэта горада Оулу (Фінляндыя). У 1993 годзе ён быў запрошаны апаніраваць доктарскую дысертацыю В. Разанава з Вылічальнага цэнтра Расійскай акадэміі навук — самай вядомай установы ў Расіі і СНД у галіне распазнавання вобразаў і апрацоўкі відарысаў.

З распадам Савецкага Саюза шмат што істотна змянілася. Трывогу выклікаюць такія лічбы: з 1991 па 1996 год аб'ём выконваемых навукова-тэхнічных работ у Беларусі скараціўся ў 4—5 разоў, а колькасць занятых у ім — у 2,6 раза. Агульная колькасць работнікаў НАНБ зменшылася з 17 400 да 10 560 чалавек па стану на 1 студзеня 1998 года. Яшчэ больш пацярпеў ІТК, колькасць супрацоўнікаў у якім скарацілася амаль у тры разы.

Ніякая навука не можа паўнакроўна развівацца ў ізаляваным стане. Кантакты патрэбны вучонаму, як паветра. Ва ўмовах СССР міжнароднае навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва было звышцэнтралізавана. Прыняцце асноўных рашэнняў і кантроль за іх выкананнем былі сканцэнтраваны ў Маскве. За 1991—1998 гады адбыліся колькасныя і якасныя змены міжнароднага навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва.

Важным накірункам развіцця міжнароднага навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва стала пашырэнне ўдзелу беларускіх вучоных у праграмах міжнародных арганізацый і навуковых фондаў.

Шляхам сумеснай распрацоўкі з заходнімі партнёрамі сваіх тэарэтычных вынікаў і ідэй, практычных распрацовак можна прыцягнуць у Беларусь валюту, захаваць навуковы патэнцыял, удзельнічаць у найбуйнейшых навуковых мерапрыемствах і ўзняць свой прэстыж.

Супрацоўніцтва з замежнымі краінамі ажыццяўлялася ў адпаведнасці з міжурадавымі, міжакадэмічнымі і міжінстытуцкімі дагаворамі і пагадненнямі. Пасля распаду СССР узнік пэўны вакуум менавіта для беларускіх вучоных, таму што большасць кантактаў ішло праз Маскву. З другога боку, з'явілася магчымасць скарыстаць грамадскія сувязі і арганізацыі. Вось чаму ў канцы 1992 года група актыўна дзейных беларускіх навукоўцаў, сярод якіх быў і Сяргей, прыняла рашэнне аб стварэнні Беларускай асацыяцыі па аналізу і распазнаванню відарысаў (БААРВ). Адбыўся ўстаноўчы сход БААРВ, на якім Сяргей быў выбраны прэзідэнтам гэтай грамадскай навуковай арганізацыі, што аб'яднала ў сваім саставе беларускіх вучоных, інжынераў і выкладчыкаў, якія працуюць у галіне распазнавання вобразаў і апрацоўкі відарысаў. Затым асацыяцыя была зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі Беларусі і ў 1993 годзе прынята як прадстаўнік Беларусі ў склад буйной і ўплывовай Міжнароднай асацыяцыі па распазнаванню вобразаў (IAPR). IAPR уключае ў свой састаў асацыяцыі ўсіх развітых краін свету, і Беларусь была прынята ў састаў IAPR першай з краін СНД. Сяргей увайшоў у састаў Прэзідыума IAPR як прадстаўнік Беларусі і далей быў выбраны ў састаў камітэта па публікацыях IAPR. За гады сваёй працы БААРВ зрабіла шмат для падтрымкі і развіцця гэтага навуковага напрамку ў Беларусі, каардынуючы даследаванні беларускіх вучоных, дапамагаючы ім устанавіць кантакты з заходнімі калегамі, прымаць удзел у міжнародных сімпозіумах і іншых форумах. У выніку за заслугі ў развіцці навуковага напрамку апрацоўкі відарысаў у 1998 годзе прафесар Абламейка абіраецца ганаровым членам Міжнароднай асацыяцыі па распазнаванню вобразаў (Fellow IAPR). Трэба адзначыць, што выбары праходзяць адзін раз у два гады і выбіраецца не больш 15 самых дастойных вучоных свету. На сённяшні дзень менш за 100 чалавек у свеце маюць гэта высокае званне, і Сяргей стаў першым сярод вучоных краін СНД і Усходняй Еўропы, хто ўдастоены гэтага звання.

У 1993 годзе Амерыканскае таварыства па аптычнай апрацоўцы інфармацыі запрасіла Сяргея быць сустаршынёй буйной міжнароднай канферэнцыі па апрацоўцы відарысаў, якая адбылася ў Берліне. Ён быў адзіным прадстаўніком такога ўзроўню сярод краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы на гэтым форуме.

У тым жа годзе Сяргей узначальвае Беларускі цэнтр буйнога міжнароднага таварыства па электратэхніцы (IEE) са штаб-кватэрай у Англіі. Членамі гэтага таварыства з'яўляюцца амаль 150 тысяч вучоных і інжынераў з усіх краін свету. Гэта быў першы цэнтр арганізацыі ў краінах СНД і Усходняй Еўропы, што адразу ўзняло Беларусь на адпаведны ўзровень сярод вучоных гэтай галіны. За гады работы цэнтр зрабіў шмат добрых спраў для беларускіх вучоных, пастаўляючы сюды найноўшыя выданні, дапамагаючы ўстанавіць сувязі з англійскімі калегамі, паказваючы нашы вынікі міжнароднаму таварыству, і многае іншае. За дасягненні прафесара Абламейкі ў галіне кібернетыкі і вылічальнай тэхнікі IEE ў канцы 1994 года выбірае яго ганаровым членам свайго таварыства (Fellow IEE). Трэба дадаць, што гэты ранг прысвойваецца самым выдатным вучоным свету — членам IEE і яго маюць усяго некалькі тысяч членаў IEE сярод 150 тысяч.

Сяргея пачалі ўсё часцей і часцей запрашаць у склад праграмных камітэтаў міжнародных канферэнцый, рэцэнзентам міжнародных выданняў. Ён уваходзіў у праграмныя камітэты многіх канферэнцый, што праводзіліся ў ЗША, Італіі, Англіі, Кітаі, Венгрыі, Чэхіі, Польшчы і іншых краінах. У 1995 годзе ён быў запрошаным дакладчыкам і выступаў з 6-гадзіннай лекцыяй на буйной міжнароднай канферэнцыі, якая адбывалася ў горадзе Тайпей на Тайвані.

Навуковы камітэт НАТО таксама сочыць за працамі беларускага вучонага і ў 1995 годзе падтрымаў яго візіт у Італію, у 1997 годзе запрасіў прыняць удзел у канферэнцыі НАТО па распазнаванню відарысаў твараў, якая праходзіла ў Шатландыі.

Прызнаннем заслуг калектыву С. Абламейкі стала запрашэнне ў 1994 годзе ад буйной французскай фірмы MATRA прыняць удзел у сумесным праекце, фінансуемым Еўрапейскай камісіяй па праграме COPERNICUS. Гэта быў адзін з першых праектаў для беларускіх кібернетыкаў у рамках гэтай праграмы. Ён прысвячаўся апрацоўцы картаграфічных відарысаў, і разам з беларусамі і французамі ў ім прымалі ўдзел супрацоўнікі з Венгрыі і Румыніі. Праект быў паспяхова выкананы і атрымаў высокую адзнаку з боку Еўрапейскай камісіі.

На сённяшні дзень лабараторыя С. Абламейкі ўдзельнічае ў двух міжнародных праектах INTAS і COPERNICUS, выконвае сумесныя даследаванні і мае агульныя публікацыі з вучонымі Германіі, Англіі, Італіі, Швецыі, Іспаніі, Японіі, Карэі.

* * *

Лабараторыя апрацоўкі і распазнавання відарысаў пад кіраўніцтвам Сяргея Абламейкі выконвала (зазначым, заўсёды паспяхова) разам з фундаментальнымі даследаваннямі таксама асабліва важныя навуковыя і вопытна-канструктарскія работы. Тэмы і тэрміны іх выканання нярэдка дыктаваліся рашэннямі дырэктыўных органаў і жорстка кантраляваліся. Гэта, зразумела, патрабавала ад загадчыка лабараторыі праяўлення асаблівых якасцей кіраўніка як адміністрацыйнага, так і навуковага. Як асоба Сяргей таксама аказаўся на вышыні: здольны ад нараджэння, усебакова адукаваны, патрабавальны да сябе, ён выклікаў у сваіх супрацоўнікаў пачуццё захаплення, жадання пераймаць лепшае. Сваёй энергіяй, энтузіязмам, глыбокім веданнем матэматыкі, апантанасцю ў працы ён натхняў іх, прывучаў не пасаваць ні перад чым. З ім прыемна супрацоўнічаць, хочацца хутчэй, дакладней і паўней выканаць яго даручэнні, як сведчаць яго супрацоўнікі.

Сяргей прафесіянальна валодае персанальным камп'ютэрам, карыстаецца паслугамі глабальнай сеткі Інтэрнет. Разам з калегамі ён распрацоўвае новыя камп'ютэрныя тэхналогіі праектавання тэхнічных сістэм у машына- і прыборабудаванні, распазнавання вобразаў і апрацоўкі сігналаў і відарысаў, вытворчасці лічбавых карт.

Дасканала валодаючы беларускай, рускай і англійскай мовамі, ён свабодна ажыццяўляе шырокі інфармацыйны пошук неабходных інфармацыйных крыніц у моры публікацый, удзельнічае ў абмеркаваннях і навуковых форумах рознага ўзроўню і падтрымлівае непасрэдныя сувязі са спецыялістамі многіх краін.

Названыя асаблівасці даюць яму унікальную магчымасць без цяжкасцей і вялікіх намаганняў здабываць новыя веды, вучыцца ўсё жыццё. А таму яго чакаюць новыя навуковыя здзяйсненні.

**Мікола САВІК.**

БІЗНЕС МАЛАДЫ І НЕ ВЕЛЬМІ ДАХОДНЫ

# ПРАФЕСІЯ МАРЫ

Инна ДОМОРАЦКАЯ



Inna DOMORATSKAYA

Ольга ШКАДРОВИЧ



Olga SHKADROVICH

**Імёны Клаўдзіі Шыфер, Наомі Кэмпбел, Надзі Аўэрман вядомыя ўсім і асацыіруюцца не толькі з прыгожымі ўборамі, але і з вялікімі ганарарамі, якія манекеншчыцы патрабуюць за сваю работу. Даходы рэкламных агенцтваў, што знаходзяць гэтыя "брыльянты" і даюць ім пуцёўку ў жыццё, гарантаваны на працягу ўсяго творчага жыцця саміх мадэляў. У Беларусі гэты від бізнесу яшчэ вельмі малады...**

У часы Савецкага Саюза распрацоўкай мадэлей адзення для грамадзян займаліся Беларускі дом мадэлей і сістэма бытавога абслугоўвання, што ажыццяўляла індывідуальны пашыў адзення для насельніцтва. Мэтай паказаў мод у сістэме лёгкай прамысловасці была ліквідацыя стылістычнай і густавай неадукаванасці. На першым месцы стаялі, відаць, эстэтычныя меркаванні, бо ні купіць, ні заказаць убачанае, як правіла, было немагчыма.

Прафесія мадэлі ў нашай краіне традыцыйна не ў пашане. Калі Тамара Ганчарова, якая сёння ўзначальвае агенцтва мадэлей "Тамара", толькі пачынала працаваць, яе зарплата складала 90 рублёў у месяц. Роўна столькі ж у той час атрымлівала прыбіральшчыца Дома мадэлей. Тым, хто прыводзіў гэта параўнанне ўслых, як правіла, адказвалі: "За што вам грошы плаціць? За прыгажосць?" Перад паездкамі за мяжу манекеншчыцы давалі падпіску аб тым, што ні з кім не будуць там знаёміцца і размаўляць. Сутачныя за мяжой складалі 14 долараў ЗША, нават калі паказ быў у парыжскім Доме мод ці паказаў гэтых у дзень было цэлых пяць. Сама Тамара прымала ўдзел у першым замежным паказе беларускай моды, які адбыўся ў Канадзе. Тады да нашых манекеншчыц падыходзілі беларускія і рускія жанчыны, якія доўгія гады жылі за мяжой, і гаварылі: "Вы не беларускі, вы, напэўна, англічанкі ці французжанкі, якіх нанялі за грошы. У Беларусі не можа быць такіх тонкіх і прыгожых жанчын". Верылі толькі тады, калі дзяўчаты пачыналі гаварыць.

У той час уяўленні аб прэстыжы былі крыху іншымі, і Ганчарова часам саромелася прызнацца, што яна — манекеншчыца. Тады працаваць мадэллю было выгадна: некаторыя рэчы пасля паўгода паказаў можна было купіць за паўцаны. У часы суцэльнага дэфіцыту, калі за рэчамі стаялі вялікія чэргі, адзенне, што не саступала па якасці імпартным рэчам, праз паўгода паказаў каштавала капейкі, а насіць яго было прэстыжна. Акрамя таго, паездка з паказамі ў Парыж акупляла многія нязручнасці.

Тады ж мадэллю працаваў і Саша Варламаў, у якога яшчэ ў 1981 годзе з'явілася ідэя стварыць свой тэатр моды. У 1987 годзе Мінскі тэатр моды з'явіўся як афіцыйная юрыдычная структура, што фінансавалася Міністэрствам бытавога абслугоўвання. Манекеншчыца атрымлівала 120 рублёў у месяц, паказы ішлі 4 разы на тыдзень, пастаянна ў рэпертуары было тры спектаклі. Пра поспех тэатра сведчыць тое, што ў 1987 годзе на ВДНГ СССР Беларускі тэатр моды атрымаў дыплом I ступені, апярэдзіўшы нават Вячаслава Зайцава. Паступова Варламаў стаў дызайнерам мужчынскага адзення, і да гэтага часу фірма, для якой ён распрацаваў калекцыю мужчынскага адзення, шые яе і пад відам вырабаў з Аўстрыі і Італіі прадае на стадыёне "Дынама".

У 1991 годзе Варламаў захварэў, і тэатр моды зачыніўся. Праз некаторы час з'явілася ідэя стварыць уласную справу. У 1992 годзе ў садружнасці з французскімі фірмамі быў арганізаваны першы конкурс "Супермадэль Беларусі". Яго пераможца Наташа Мазала паехала працаваць у Парыж.

Па словах Варламава, першы ўдар па яго бізнесу нанесла адмена разлікаў у валюце. Імгненна падскочылі цэны, дарагія магазіны пакінуў пакупнік сярэдняга класа, бяднейшыя магазіны паказаў не наладжвалі, лічачы, што танная рэч будзе куплена і так. З 1994 года ў Беларусі пачалі з'яўляцца рэкламныя агенцтвы. У кожным абласным цэнтры ёсць па два-тры самастойныя агенцтвы з юрыдычным статусам. Нярэдка іх адкрываюць тыя, хто скончыў трохмесячныя курсы ў Варламава ці Ганчаровай. Сёння агенцтва Сашы Варламава не столькі рэкламнае, колькі тэатральны калектыў, у склад якога ўваходзяць свае балетныя і танцавальныя пары, вакальныя спявачкі, эксцэнтрыка. Варламаў робіць спектаклі, у якіх вялікае месца адводзіцца модзе.

Па словах Варламава, ён займаецца тэатрам моды, супрацоўнічаючы з некалькімі фірмамі, якія разумеюць, што без рэкламы свайго густу і стылю ім не абысціся. Вельмі праблематычна сёння рэкламаваць прадукцыю прамысловых прадпрыемстваў, якія выпускаюць толькі малую частку сваёй прадукцыі на ўнутраны рынак, працуючы ў асноўным па імпартных заказах. Агенцтва Сашы Варламава часта працуе з дзяржаўнымі прадпрыемствамі і структурамі, паколькі, з аднаго боку, гэта гарантуе некаторую стабільнасць, а з другога — гэтыя фірмы ведаюць, што Варламаў працуе прафесійна і па даволі нізкіх расцэнках. Аднак дзяржзаказу сёння зусім нямнога, бо ў дзяржавы таксама няма грошай.

Акрамя тэатра, у Сашы Варламава ёсць каледж, які робіць тры наборы ў год. У кожным наборы каля ста чалавек. Апошнім часам жадаючых вучыцца стала менш — дык жа і грошай у людзей не прыбаўляецца. Далёка не ўсе, хто паступае ў школу, потым стане мадэллю, аднак тут выкладаецца унікальная сістэма падрыхтоўкі паходкі, мышц да работы, выкладаюцца законы іміджу, практычны курс па прычосцы, дэкаратыўнай і лячэбнай касметыцы, касцюму.

У гэтым годзе агенцтва "Тамара" адзначыла сваё пяцігоддзе. Яно існуе пры Доме мадэлей на прынцыпах узаемавыгаднага супрацоўніцтва: Дом мадэлей знайшоў магчымасць знізіць арэндную плату за займаемыя агенцтвам плошчы, у сваю чаргу, манекеншчыцы па дагавору працуюць на Дом мадэлей. Прыбытак тут таксама ў асноўным прыносіць школа манекеншчыц, якая існуе пры агенцтве. Больш дакладна, школ дзве: "Страказа", дзе на працягу трох месяцаў вучацца дзяўчынкі з 11 да 14 гадоў, і школа для "вучаніц" ад 16 да 20 гадоў. Сёння ў школу мадэлей многіх дзяўчынак прыводзяць самі бацькі. На курс набіраецца 50—60 чалавек, з якіх манекеншчыцамі стануць вельмі нямногія. Работы апошнім часам няшмат, і пражыць на тыя грошы, якія можна зарабіць на некалькіх паказах у тыдзень ці на выпадковых здымках на тэле- ці кінастудыі, проста немагчыма. Працаваць мадэллю можна толькі ў тым выпадку, калі ў цябе ёсць багатыя бацькі, згодныя ўтрымліваць дачку, а таксама ў вольны ад асноўнай работы час. Заработкі самой мадэлі сёння вельмі невысокія.

Па словах Варламава, шоу грошай не прыносіць, бо яго арганізацыя і правядзенне — справа даволі дарагая і ў поўнай меры не акупляецца. Прыбытак прыносіць толькі школа, якая дазваляе рабіць конкурс, рыхтаваць мадэлей і ўвогуле заставацца на плаву. Акрамя таго, ва ўсім свеце існуе такое паняцце, як мацярынскае агенцтва. Калі другое агенцтва лічыць патрэбным выкарыстаць тую ці іншую мадэль, яно плаціць агенцтву, якое знайшло і выхавала гэтую мадэль, 5 працэнтаў ад усіх наступных яе даходаў. Аднак наўрад ці беларускім агенцтвам у бліжэйшы час удасца атрымаць свае працэнты ад манекеншчыц, якія паехалі на Захад. Яшчэ ў 1992 годзе паехалі ў Італію і працуюць там чатыры манекеншчыцы Сашы Варламава. Наташа Мазала працуе ў Парыжы ў "Шанель". Сёння дзяўчаты сцвярджаюць, што трапілі на Захад самастойна, без чыёй-небудзь дапамогі, і няма ніякай магчымасці даказаць адваротнае. Практычны Варламаў, зразумеўшы, што як толькі мадэлі трапляюць за мяжу, яны тут жа забываюць, адкуль яны і хто ім дапамог прабіцца, сёння працуе толькі на ўнутраны рынак.

Тамара Ганчарова, наадварот, імкнецца да супрацоўніцтва з замежнымі агенцтвамі. Яе мадэль Таццяна Рудэнка цяпер працуе ў парыжскім агенцтве "Ідал", а Іра Шаблоцька — у агенцтве "Метрапалітэн", з якім склаліся нядрэнныя сувязі. Аліна Шылак летась з'ездзіла на конкурс "Эліт модэл лук" у Парыж і ўвайшла ў лік 15 фіналістак. У верасні яна паедзе працаваць у агенцтва "Эліт". Алена Шчарбак два гады назад заняла другое месца на конкурсе "Міс Еўропа", Любоў Анісімава летась стала "віцэ-міс" на конкурсе ў Ялце, а сёлета ўдастоена прыза "Міс элегантнасць" на міжнародным конкурсе "Каралева клубаў" ў Малайзіі. На конкурсе "Белая амфара", які праходзіць у Віцебску, "Тамара" другі год запар займае першае месца. Удзел у міжнародных конкурсах дае, як правіла, нямнога — магчымасць падарожнічаць, бачыць свет і шанс пазнаёміцца з людзьмі, якія могуць затым дапамагчы рэалізаваць сябе. Дарагія падарункі ў выглядзе машын, манто і мільённых кантрактаў нашым дзяўчатам пакуль не перападалі. Агенцтва ў такіх выпадках суцяшаецца пачуццём глыбокага задавальнення ад поспеху сваёй мадэлі. Пераможцам мясцовых конкурсаў прыгажосці атэлье, што спансіравалі конкурс, прадастаўляюць магчымасць бясплатна пашыць сабе адзенне ці прапаноўваюць скідкі на пашыў вясельнай сукенкі, калі дзяўчына збіраецца замуж.

Што тычыцца адлічэнняў, якія належаць агенцтву, то ў "Тамары" няма нават валютнага рахунку, на які яны маглі б паступаць. "Мы ведаем, што так павінна быць у цывілізаванай краіне, — гаворыць Ганчарова. — Але на практыцы, трапіўшы за мяжу, дзяўчаты забываюць пра нас, а атрымаць што-небудзь па кантракту, які мы заключаем з імі тут, проста немагчыма. Я спадзяюся, што нешта зменіцца ў будучыні". На пытанне аб асноўных праблемах гэтага бізнесу ў Беларусі, Варламаў адказаў, што яго перш за ўсё непакоіць тое, што пакідаюць мясцовы рынак прыватныя прадпрымальнікі і прыватныя прадпрыемствы. А тыя, хто пакуль на ім прысутнічае, часта проста баяцца рэкламаваць сваю прадукцыю, прыцягваючы тым самым да сябе ўвагу, або ў іх няма грошай нават на тое, каб выплаціць зарплату.

Дзяржаўным прадпрыемствам рэкламаваць сваю прадукцыю няма патрэбы. Рынак тавараў у Беларусі практычна адсутнічае, а значыць, няма і рэкламы, якая корміць агенцтвы.

Сёння ў Варламава ёсць патэнт на правядзенне конкурсу "Супермадэль Беларусі", які дае яму права на такія віды дзейнасці, як правядзенне аўкцыёнаў, продаж, правядзенне выстаў для камерцыйных і рэкламных мэт, рэклама, латарэі, круізы, падарожжы, экскурсійныя паездкі, падрыхтоўка выстаў, конкурсаў, забаўляльных клубаў, семінараў.

Конкурс "Супермадэль Беларусі" вельмі змяніўся ў параўнанні з першапачатковай версіяй і ўжо трэці раз праводзіцца як фестываль беларускай моды.

У бліжэйшы час выходзіць кніга Варламава "Супермадэль — прафесія мары", напісаная не толькі для манекеншчыц, але і для самага шырокага кола чытачоў. Акрамя вельмі карысных практычных звестак, у ёй будзе змешчаны слоўнік тэрмінаў, якімі карыстаюцца мадэлі, а таксама руска-нямецка-англійскі размоўнік для мадэлей. Дарэчы, веданне, а дакладней, няведанне замежнай мовы для многіх нашых мадэлей з'яўляецца сур'ёзнай перашкодай для работы на Захадзе.

Па словах саміх мадэлей, прыгожае жыццё беларускай манекеншчыцы часцей за ўсё заключаецца ў тым, што дома раздаецца тэлефонны званок, пасля чаго ёй паведамляюць, што праз паўгадзіны ў яе прымерка ў Курасоўшчыне ці Малінаўцы. Пры гэтым лімузін да пад'езда ў кантракце, як правіла, не агавораны.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**





**Галоўны мастак віцебскага тэатра "Лялька" Аляксандр Сідараў акрамя афармленчай работы і стварэння лялек займаецца яшчэ вырабам фігур анёлаў. Першага анёла ён сем год назад выразаў з ліпы. Цяпер творы Сідарава ўпрыгожваюць фае тэатра "Лялька". А ўвогуле Аляксандр Сяргеевіч задумаў стварыць унікальны музей "Сад анёлаў".**

**НА ЗДЫМКАХ: А. СІДАРАЎ і яго вырабы; "Анёл".**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

НА КРАІ СВЕТУ

# І НАЗВАЎ ЯЕ ГАРОЙ КАСЦЮШКІ

Павел Стшэлецкі заслугоўвае асаблівай увагі нашчадкаў, таму што яго адкрыцці, якія сталі вядомымі ва ўсім свеце, не знайшлі ў свой час прызнання ў сябе на радзіме, у Польшчы. На жаль, так здараецца нярэдка. Ён абышоў, аб'ездзіў, праплыў, даследаваў без перабольшання — паўсвету. Аднак яго аўстралійскае падарожжа было найбольш значным.

У гэтым ажыўленым сіднейскім порце Стшэлецкі высадзіўся ў красавіку 1839 года. У горадзе ён, натуральна, доўга не затрымліваўся. І не толькі таму, што горад, які яшчэ нядаўна быў катаржнай калоніяй, карыстаўся дрэннай славай. Падарожніка, зразумела, прыцягвалі няходжаныя сцежкі.

Блакітныя горы не зусім апраўдвалі сваю назву. Хрыбты, хаця і не вельмі высокія, у некаторых месцах станавіліся цяжкапраходнымі. Горны ланцуг цягнуўся амаль на 300 кіламетраў у глыб мацерыка, але ўяўляўся такім заблытаным, што, здавалася, даліны тут зусім наглуха замкнёныя, а рэкі не маюць ні вусця, ні вытокаў.

З цяжкасцю ішла невялікая група людзей на чале з кіраўніком. Ён быў наперадзе атрада і нёс на спіне прыборы і інструменты: баяўся даверыць іх каму-небудзь іншаму. Часам даводзілася туга, беды адна за другой падпільноўвалі падарожнікаў.

Хаця за плячыма Стшэлецкага быў не адзін пераход праз Анды на галавакружных вышынях, а тут горы былі ніжэйшыя, рызыка была ўсё роўна вялікай. У дзённіку Стшэлецкага з'явіўся такі запіс: "Бяздонныя цясніны, глыбокія даліны і страшныя бездані. Заблытаўшыся ў бясконцым лабірынце падземных цяснін гары Гей і ракі Грос, я не ў стане быў выбрацца з яго, і толькі праз некалькі дзён няспыннай стомленасці, голаду і небяспек мне ўдалося выйсці адтуль".

І ўсё ж ён узышоў на гару Гей. А праз некалькі дзён і на больш высокую безыменную вяршыню. І на правах першаўзыходніка назваў яе Адзінай — імем сваёй каханай. З-за Адзіны і пачаліся яго блуканні.

У родных мясцінах адбываліся першыя юнацкія вылазкі ў Татры. Яны былі тады яшчэ мала даследаванымі гарамі. Першы вопыт узыходжанняў і загартоўкі не прайшоў бясследна. Малады ўлан паспрабаваў уцячы са сваёй каханай — дачкой палкоўніка. Іх дагналі ў дарозе. Служба скончылася ўцёкамі жаніха — ужо у адзіночку — з казарм і з радзімы. Пачаліся блуканні па Італіі, Германіі, Англіі. І ўзмоцненая, так неабходная для эмігранта вучоба. Прываблівалі яго геалогія, геаграфія. А ўжо аб мовах і гаварыць не даводзіцца: без іх проста не абысціся падарожніку.

Павел Эдмунд Стшэлецкі быў сынам свайго часу. Многія выхадцы з Еўропы, асабліва нашчадкі арыстакратычных родаў, у новы, бурны век прадпрымальнасці засталіся ні з чым — без былога багацця.

З такога вось збяднелага графскага роду паходзіў і выпускнік Оксфардскага каледжа Павел Эдмунд. У яго хапіла розуму стрымаць у сабе гонар сваіх продкаў і стаць дзелавым чалавекам. Толькі не на біржы, а ў больш рамантычнай сферы — у галіне геаграфіі, курс якой ён прайшоў ва універсітэце. Ён падарожнічаў, збіраў этнаграфічныя і прыродна-гістарычныя калекцыі, прадаваў іх музеям. Тры гады ён падарожнічаў па абедзвюх Амерыках, астравах Акіяніі, Новай Зеландыі. А потым была гэтая сур'ёзная экспедыцыя па загадкавай Аўстраліі, краіне гор, эўкаліптаў, пустынь і перасыхаючых рэк. Перад ім тут падарожнічаў Гамільтан Юм, Уільям Ховел, Томас Мітчэл...

Але Аўстралійскія Альпы былі вялікія, не ўсюды лёгкапраходныя, і адкрыццяў хапіла і на долю Стшэлецкага. Ён правёў геадэзічныя здымкі, сабраў узоры парод, пранік у глухія, няходжаныя куткі.

Прайшоўшы паўднёва-заходнія адгор'і, дасягнуўшы вярхоўяў рэк, пранікнуўшы ў магутныя гаі эўкаліптаў і зараснікі аўстралійскіх акацый, ён выйшаў да заліва Уэстэрн-Порт, зрабіў заключэнне аб перспектывах выкарыстання даследаваных зямель у будучыні.

Толькі экспедыцыі пад кіраўніцтвам графа П. Стшэлецкага ў 1840 годзе ўдалося трапіць на плато Марана да вытокаў Мурэя, самай доўгай ракі мацерыка (яе даўжыня 1 632 кіламетры). Досыць паўнаводная і нават прыгодная для суднаходства ў ніжнім цячэнні, у вярхоўях яна звіліста пятляла сярод міжгор'яў або і зусім губляла след у засушлівае надвор'е. Сапраўдных леднікоў тут не было і надзейнага прытока таксама. Хаця гэта і быў адзіны раён на ўсім мацерыку, дзе захоўваўся снег на працягу ўсяго года. Яго заносіла моцнымі ўсходнімі вятрамі ў зацененыя цясніны на падветраныя схілы. У гэтым, можна сказаць, самым снежным месцы мацерыка і адкрыў Стшэлецкі самую высокую вяршыню кантынента.

У час свайго паўгадавога паходу 15 лютага 1840 года ён затрымаўся ў дарозе дзеля падзеі, якая потым увайшла ў гісторыю геаграфічных адкрыццяў. Вось што напісаў Стшэлецкі сваім блізкім у Польшчу ў сувязі з гэтай "затрымкай": "Велічную вяршыню, на якую перада мной ніхто не паднімаўся, з яе вечнымі снягамі і маўклівасцю, і я выкарыстаў, каб увекавечыць на гэтым мацерыку ў памяці будучых пакаленняў дарагое імя, што шануецца кожным палякам — кожным сябрам свабоды... У чужым краі, на чужой зямлі... я назваў яе гарой Касцюшкі".

У 1863 годзе Стшэлецкім была вызначана і вышыня — 2 230 метраў над узроўнем мора. Вядома, спачатку імя ўпаміналася больш на картах, чым сярод аўстралійскіх каланістаў і абарыгенаў. Фермерам і клеркам было не да паломніцтва. Але прыйшлі новыя часы, новыя захапленні і заняткі.

У гонар прызнання заслуг выдатнага даследчыка і географа з'явіўся Стшэлецкі-крык ("крыкамі" ў Аўстраліі называюць рэчкі з перасыхаючымі рэчышчамі). І як ні цяжка такой рацэ ў засушлівым клімаце пятага кантынента, а след яе на зямлі не згубіўся.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**



# ДЛЯ ДЗІЦЯЧАГА СЯБРОЎСТВА МЕЖЫ НЕ ІСНУЮЦЬ



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

адзінаццацігадовым сынам прыехала на Беларусь у якасці суправаджаючай групы дзяцей з Сыктыўкара. Нарадзілася Маргарыта Пятроўна ў далёкім паўночным горадзе за Палярным кругам. Бацькі родам з Гомельшчыны. Пасля заканчэння вышэйшых навучальных устаноў яны паехалі па размеркаванню на Поўнач. Дзяўчынкаю Маргарыта Пятроўна амаль кожнае лета адпачывала пад Гомелем у бабулі з дзядулем. Але час ішоў. Яна сталела. Неўзабаве Расія і Беларусь сталі замежжам. У кожнай свае грошы. Інфляцыя і дарагоўля падзялілі краіны яшчэ больш. Вось чаму яна з задавальненнем узяла на сябе адказнасць за 11 сваіх маленькіх выхаванцаў. Гэта была магчымасць зноў пабываць на Беларусі.

— На жаль, — расказвае Маргарыта Пятроўна, — надвор'е спачатку крыху сапсавалася, але апошні тыдзень быў па-сапраўднаму летнім. Тыя ж мерапрыемствы, якія тут былі для нас праведзены, не далі сумаваць. Экскурсіі ў Хатынь, па гораду Мінску, разнастайныя віктарыны па гісторыі Беларусі, аб Лагойскім раёне, а таксама спартыўныя мерапрыемствы, выступленне перад дзецьмі заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Вольгі Шутавай. Усё гэта застанецца ў памяці дзяцей яшчэ надоўга.

Сяброўства ж, якое тут завязалася сярод дзяцей, — гэта ўжо не на адзін год. Яно будзе прыцягваць іх нібыта магнітам.

На жаль, усяму прыходзіць канец. І таму сумным было развітанне. Хлопчыкі і дзяўчынкі абменьваліся хатнімі адрасамі, давалі абяцанні пісаць лісты. Як гэта звычайна і бывае ў такім узросце, калі дзеці ўпершыню пазнаюць якую-ніякую, але самастойнасць, яны па-іншаму глядзяць адзін на аднаго. Быццам яны раптоўна пасталелі, і да іх прыйшло першае дзіцячае каханне, для якога не бывае ніякіх унутраных межаў. Трынаццацігадовы хлопчык з Івана-Франкоўска развітваўся са сваёй сяброўкай з Вільнюса. Яны давалі абяцанні адзін аднаму на наступны год зноў сустрэцца. Радзіма бацькоў іх пазнаёміла. Дык можа яна адыграе ў іх лёсе больш значную ролю?

**Сяргей САБАДАШ.**

**Здымкі Віктарам СТАВЕРАМ зроблены ў Лагойскім доме адпачынку.**



СТАТЫСТЫКА

# АСНОЎНЫЯ ЭКСПАРТНЫЯ ПАЗІЦЫІ БЕЛАРУСІ

Асноўнымі пазіцыямі таварнай структуры экспарту Беларусі ў першым квартале бягучага года былі транспартныя сродкі, тэкстыль і тэкстыльныя вырабы, а таксама машыны, абсталяванне і механізмы.

Як растлумачылі ў Міністэрстве знешніх эканамічных сувязей рэспублікі, гэтыя пазіцыі з'яўляюцца традыцыйнымі ў агульным аб'ёме экспарту беларускіх тавараў, і за два месяцы бягучага года структура экспарту не змянілася.

Аб'ём экспарту Беларусі ў студзені — лютым гэтага года склаў 1 023,1 мільёна долараў ЗША і павялічыўся ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 4,4 працэнта. Экспартная квота (доля прадукцыі, рэалізаванай за межы рэспублікі) па выніках двух месяцаў склала 49,5 працэнта. У краіны СНД экспарт узрос на 17,7 працэнта, у тым ліку ў Расію — на 23,7 працэнта. У той жа час у дзяржавы далёкага замежжа аб'ём беларускага экспарту скараціўся на 23,8 працэнта.

У таварнай структуры экспарту Беларусі пераважаюць транспартныя сродкі, якія складаюць 18 працэнтаў агульнага аб'ёму. За два месяцы іх было пастаўлена на суму 183,8 мільёна долараў ЗША. У параўнанні са студзенем — лютым мінулага года гэтая таварная група захавала першае месца, але яе доля ў агульным аб'ёме экспарту скарацілася на 5,1 працэнта, а вартасны аб'ём — на 28,7 працэнта.

Аб'ём паставак тэкстылю і тэкстыльных вырабаў за студзень — люты гэтага года дасягнуў 135 мільёнаў долараў ЗША, што складае 13,2 працэнта агульнага аб'ёму. З гэтай таварнай групы больш за ўсё экспартуецца хімічных валокнаў і ніцей, адзення тэкстыльнага і трыкатажнага, ільновалакна і бавоўняных тканін, паведамілі ў Міністэрстве знешнеэканамічных сувязей.

Машыны, абсталяванне і механізмы займаюць трэцюю экспартную пазіцыю. Іх было пастаўлена на 129,8 мільёна долараў ЗША, што складае 12,7 працэнта агульнага памеру экспартных паставак. Галоўнымі пазіцыямі гэтай групы з'яўляюцца бытавыя халадзільнікі, падшыпнікі, электронныя інтэгральныя мікрасхемы, тэлевізары.

Акрамя таго, у студзені — лютым былі зроблены значныя экспартыя пастаўкі хімічнай прадукцыі (угнаенняў, арганічных хімічных злучэнняў, прадуктаў неарганічнай хіміі) і некаштоўных металаў.

**"Інтэрфакс".**
**("Белорусская газета").**

БІЗНЕС МАЛАДЫ І НЕ ВЕЛЬМІ ДАХОДНЫ

# ПРАФЕСІЯ МАРЫ

Інна ДОМОРАЦКАЯ



Inna DOMORATSKAYA

Ольга ШКАДРОВИЧ



Olga SHKADROVICH

**Імёны Клаўдзіі Шыфер, Наомі Кэмпбел, Надзі Аўэрман вядомыя ўсім і асацыіруюцца не толькі з прыгожымі ўборамі, але і з вялікімі ганарарамі, якія манекеншчыцы патрабуюць за сваю работу. Даходы рэкламных агенцтваў, што знаходзяць гэтыя "брыльянты" і даюць ім пуцёўку ў жыццё, гарантаваны на працягу ўсяго творчага жыцця саміх мадэляў. У Беларусі гэты від бізнесу яшчэ вельмі малады...**

У часы Савецкага Саюза распрацоўкай мадэлей адзення для грамадзян займаліся Беларускі дом мадэлей і сістэма бытавога абслугоўвання, што ажыццяўляла індывідуальны пашыў адзення для насельніцтва. Мэтай паказаў мод у сістэме лёгкай прамысловасці была ліквідацыя стылістычнай і густавай неадукаванасці. На першым месцы стаялі, відаць, эстэтычныя меркаванні, бо ні купіць, ні заказаць убачанае, як правіла, было немагчыма.

Прафесія мадэлі ў нашай краіне традыцыйна не ў пашане. Калі Тамара Ганчарова, якая сёння ўзначальвае агенцтва мадэлей "Тамара", толькі пачынала працаваць, яе зарплата складала 90 рублёў у месяц. Роўна столькі ж у той час атрымлівала прыбіральшчыца Дома мадэлей. Тым, хто прыводзіў гэта параўнанне ўслых, як правіла, адказвалі: "За што вам грошы плаціць? За прыгажосць?" Перад паездкамі за мяжу манекеншчыцы давалі падпіску аб тым, што ні з кім не будуць там знаёміцца і размаўляць. Сутачныя за мяжой складалі 14 долараў ЗША, нават калі паказ быў у парыжскім Доме мод ці паказаў гэтых у дзень было цэлых пяць. Сама Тамара прымала ўдзел у першым замежным паказе беларускай моды, які адбыўся ў Канадзе. Тады да нашых манекеншчыц падыходзілі беларускія і рускія жанчыны, якія доўгія гады жылі за мяжой, і гаварылі: "Вы не беларускі, вы, напэўна, англічанкі ці француженкі, якіх нанялі за грошы. У Беларусі не можа быць такіх тонкіх і прыгожых жанчын". Верылі толькі тады, калі дзяўчаты пачыналі гаварыць.

У той час уяўленні аб прэстыжы былі крыху іншымі, і Ганчарова часам саромелася прызнацца, што яна — манекеншчыца. Тады працаваць мадэллю было выгадна: некаторыя рэчы пасля паўгода паказаў можна было купіць за паўцаны. У часы суцэльнага дэфіцыту, калі за рэчамі стаялі вялікія чэргі, адзенне, што не саступала па якасці імпартным рэчам, праз паўгода паказаў каштавала капейкі, а насіць яго было прэстыжна. Акрамя таго, паездка з паказамі ў Парыж акупляла многія нязручнасці.

Тады ж мадэллю працаваў і Саша Варламаў, у якога яшчэ ў 1981 годзе з'явілася ідэя стварыць свой тэатр моды. У 1987 годзе Мінскі тэатр моды з'явіўся як афіцыйная юрыдычная структура, што фінансавалася Міністэрствам бытавога абслугоўвання. Манекеншчыца атрымлівала 120 рублёў у месяц, паказы ішлі 4 разы на тыдзень, пастаянна ў рэпертуары было тры спектаклі. Пра поспех тэатра сведчыць тое, што ў 1987 годзе на ВДНГ СССР Беларускі тэатр моды атрымаў дыплом І ступені, апярэдзіўшы нават Вячаслава Зайцава. Паступова Варламаў стаў дызайнерам мужчынскага адзення, і да гэтага часу фірма, для якой ён распрацаваў калекцыю мужчынскага адзення, шые яе і пад відам вырабаў з Аўстрыі і Італіі прадае на стадыёне "Дынама".

У 1991 годзе Варламаў захварэў, і тэатр моды зачыніўся. Праз некаторы час з'явілася ідэя стварыць уласную справу. У 1992 годзе ў садружнасці з французскімі фірмамі быў арганізаваны першы конкурс "Супермадэль Беларусі". Яго пераможца Наташа Мазала паехала працаваць у Парыж.

Па словах Варламава, першы ўдар па яго бізнесу нанесла адмена разлікаў у валюце. Імгненна падскочылі цэны, дарагія магазіны пакінуў пакупнік сярэдняга класа, бяднейшыя магазіны паказаў не наладжвалі, лічачы, што танная рэч будзе куплена і так. З 1994 года ў Беларусі пачалі з'яўляцца рэкламныя агенцтвы. У кожным абласным цэнтры ёсць па два-тры самастойныя агенцтвы з юрыдычным статусам. Нярэдка іх адкрываюць тыя, хто скончыў трохмесячныя курсы ў Варламава ці Ганчаровай. Сёння агенцтва Сашы Варламава не столькі рэкламнае, колькі тэатральны калектыў, у склад якога ўваходзяць свае балетныя і танцавальныя пары, вакальныя спявачкі, эксцэнтрыка. Варламаў робіць спектаклі, у якіх вялікае месца адводзіцца модзе.

Па словах Варламава, ён займаецца тэатрам моды, супрацоўнічаючы з некалькімі фірмамі, якія разумеюць, што без рэкламы свайго густу і стылю ім не абысціся. Вельмі праблематычна сёння рэкламаваць прадукцыю прамысловых прадпрыемстваў, якія выпускаюць толькі малую частку сваёй прадукцыі на ўнутраны рынак, працуючы ў асноўным па імпартных заказах. Агенцтва Сашы Варламава часта працуе з дзяржаўнымі прадпрыемствамі і структурамі, паколькі, з аднаго боку, гэта гарантуе некаторую стабільнасць, а з другога — гэтыя фірмы ведаюць, што Варламаў працуе прафесійна і па даволі нізкіх расцэнках. Аднак дзяржзаказу сёння зусім нямнога, бо ў дзяржавы таксама няма грошай.

Акрамя тэатра, у Сашы Варламава ёсць каледж, які робіць тры наборы ў год. У кожным наборы каля ста чалавек. Апошнім часам жадаючых вучыцца стала менш — дык жа і грошай у людзей не прыбаўляецца. Далёка не ўсе, хто паступае ў школу, потым стане мадэллю, аднак тут выкладаецца унікальная сістэма падрыхтоўкі паходкі, мышц да работы, выкладаюцца законы іміджу, практычны курс па прычосцы, дэкаратыўнай і лячэбнай касметыцы, касцюму.

У гэтым годзе агенцтва "Тамара" адзначыла сваё пяцігоддзе. Яно існуе пры Доме мадэлей на прынцыпах узаемавыгаднага супрацоўніцтва: Дом мадэлей знайшоў магчымасць знізіць арэндную плату за займаемыя агенцтвам плошчы, у сваю чаргу, манекеншчыцы па дагавору працуюць на Дом мадэлей. Прыбытак тут таксама ў асноўным прыносіць школа манекеншчыц, якая існуе пры агенцтве. Больш дакладна, школ дзве: "Страказа", дзе на працягу трох месяцаў вучацца дзяўчынкі з 11 да 14 гадоў, і школа для "вучаніц" ад 16 да 20 гадоў. Сёння ў школу мадэлей многіх дзяўчынак прыводзяць самі бацькі. На курс набіраецца 50—60 чалавек, з якіх манекеншчыцамі стануць вельмі нямногія. Работы апошнім часам няшмат, і пражыць на тыя грошы, якія можна зарабіць на некалькіх паказах у тыдзень ці на выпадковых здымках на тэле- ці кінастудыі, проста немагчыма. Працаваць мадэллю можна толькі ў тым выпадку, калі ў цябе ёсць багатыя бацькі, згодныя ўтрымліваць дачку, а таксама ў вольны ад асноўнай работы час. Заработкі самой мадэлі сёння вельмі невысокія.

Па словах Варламава, шоу грошай не прыносіць, бо яго арганізацыя і правядзенне — справа даволі дарагая і ў поўнай меры не акупляецца. Прыбытак прыносіць толькі школа, якая дазваляе рабіць конкурс, рыхтаваць мадэлей і ўвогуле заставацца на плаву. Акрамя таго, ва ўсім свеце існуе такое паняцце, як мацярынскае агенцтва. Калі другое агенцтва лічыць патрэбным выкарыстаць тую ці іншую мадэль, яно плаціць агенцтву, якое знайшло і выхавала гэтую мадэль, 5 працэнтаў ад усіх наступных яе даходаў. Аднак наўрад ці беларускім агенцтвам у бліжэйшы час удасца атрымаць свае працэнты ад манекеншчыц, якія паехалі на Захад. Яшчэ ў 1992 годзе паехалі ў Італію і працуюць там чатыры манекеншчыцы Сашы Варламава. Наташа Мазала працуе ў Парыжы ў "Шанель". Сёння дзяўчаты сцвярджаюць, што трапілі на Захад самастойна, без чыёй-небудзь дапамогі, і няма ніякай магчымасці даказаць адваротнае. Практычны Варламаў, зразумеўшы, што як толькі мадэлі трапляюць за мяжу, яны тут жа забываюць, адкуль яны і хто ім дапамог прабіцца, сёння працуе толькі на ўнутраны рынак.

Тамара Ганчарова, наадварот, імкнецца да супрацоўніцтва з замежнымі агенцтвамі. Яе мадэль Таццяна Рудэнка цяпер працуе ў парыжскім агенцтве "Ідал", а Іра Шаблоцька — у агенцтве "Метрапалітэн", з якім склаліся нядрэнныя сувязі. Аліна Шылак летась з'ездзіла на конкурс "Эліт модэл лук" у Парыж і ўвайшла ў лік 15 фіналістак. У верасні яна паедзе працаваць у агенцтва "Эліт". Алена Шчарбак два гады назад заняла другое месца на конкурсе "Міс Еўропа", Любоў Анісімава летась стала "віцэ-міс" на конкурсе ў Ялце, а сёлета ўдастоена прыза "Міс элегантнасць" на міжнародным конкурсе "Каралева клубаў" у Малайзіі. На конкурсе "Белая амфара", які праходзіць у Віцебску, "Тамара" другі год запар займае першае месца. Удзел у міжнародных конкурсах дае, як правіла, нямнога — магчымасць падарожнічаць, бачыць свет і шанс пазнаёміцца з людзьмі, якія могуць затым дапамагчы рэалізаваць сябе. Дарагія падарункі ў выглядзе машын, манто і мільённых кантрактаў нашым дзяўчатам пакуль не перападалі. Агенцтва ў такіх выпадках суцяшаецца пачуццём глыбокага задавальнення ад поспеху сваёй мадэлі. Пераможцам мясцовых конкурсаў прыгажосці атэлье, што спансіравалі конкурс, прадастаўляюць магчымасць бясплатна пашыць сабе адзенне ці прапаноўваюць скідкі на пашыў вясельнай сукенкі, калі дзяўчына збіраецца замуж.

Што тычыцца адлічэнняў, якія належаць агенцтву, то ў "Тамары" няма нават валютнага рахунку, на які яны маглі б паступаць. "Мы ведаем, што так павінна быць у цывілізаванай краіне, — гаворыць Ганчарова. — Але на практыцы, трапіўшы за мяжу, дзяўчаты забываюць пра нас, а атрымаць што-небудзь па кантракту, які мы заключаем з імі тут, проста немагчыма. Я спадзяюся, што нешта зменіцца ў будучыні". На пытанне аб асноўных праблемах гэтага бізнесу ў Беларусі, Варламаў адказаў, што яго перш за ўсё непакоіць тое, што пакідаюць мясцовы рынак прыватныя прадпрымальнікі і прыватныя прадпрыемствы. А тыя, хто пакуль на ім прысутнічае, часта проста баяцца рэкламаваць сваю прадукцыю, прыцягваючы тым самым да сябе ўвагу, або ў іх няма грошай нават на тое, каб выплаціць зарплату.

Дзяржаўным прадпрыемствам рэкламаваць сваю прадукцыю няма патрэбы. Рынак тавараў у Беларусі практычна адсутнічае, а значыць, няма і рэкламы, якая корміць агенцтвы.

Сёння ў Варламава ёсць патэнт на правядзенне конкурсу "Супермадэль Беларусі", які дае яму права на такія віды дзейнасці, як правядзенне аўкцыёнаў, продаж, правядзенне выстаў для камерцыйных і рэкламных мэт, рэклама, латарэі, круізы, падарожжы, экскурсійныя паездкі, падрыхтоўка выстаў, конкурсаў, забаўляльных клубаў, семінараў.

Конкурс "Супермадэль Беларусі" вельмі змяніўся ў параўнанні з першапачатковай версіяй і ўжо трэці раз праводзіцца як фестываль беларускай моды.

У бліжэйшы час выходзіць кніга Варламава "Супермадэль — прафесія мары", напісаная не толькі для манекеншчыц, але і для самага шырокага кола чытачоў. Акрамя вельмі карысных практычных звестак, у ёй будзе змешчаны слоўнік тэрмінаў, якімі карыстаюцца мадэлі, а таксама руска-нямецка-англійскі размоўнік для мадэлей. Дарэчы, веданне, а дакладней, няведанне замежнай мовы для многіх нашых мадэлей з'яўляецца сур'ёзнай перашкодай для работы на Захадзе.

Па словах саміх мадэлей, прыгожае жыццё беларускай манекеншчыцы часцей за ўсё заключаецца ў тым, што дома раздаецца тэлефонны званок, пасля чаго ёй паведамляюць, што праз паўгадзіны ў яе прымерка ў Курасоўшчыне ці Малінаўцы. Пры гэтым лімузін да пад'езда ў кантракце, як правіла, не агавораны.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**





**Галоўны мастак віцебскага тэатра "Лялька" Аляксандр Сідараў акрамя афармленчай работы і стварэння лялек займаецца яшчэ вырабам фігур анёлаў. Першага анёла ён сем год назад выразаў з ліпы. Цяпер творы Сідарава ўпрыгожваюць фае тэатра "Лялька". А ўвогуле Аляксандр Сяргеевіч задумаў стварыць унікальны музей "Сад анёлаў".**

**НА ЗДЫМКАХ: А. СІДАРАЎ і яго вырабы; "Анёл".**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКІ САМАДЗЕЙНЫ ТЭАТР

# ПА СЦЯЖЫНКАХ БАСАНОЖ



Сцяпан Медвядок, нібы на крылах белых буслоў, прыляцеў з амерыканскага Саўт-Рывера ў сваю родную вёску Карпавічы, што прытулілася на ўзбочыне Магілёўшчыны. Шмат часу таму назад у шасцігадовым узросце пакінуў ён з бацькамі родны кут з прыгажуткім наваколлем і ўрадлівымі палеткамі, на якіх, кажучы коласаўскімі радкамі, "і раслі б, здаецца, дзеці, каб іх кінуў на раллі". І яшчэ "мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы", запомнілася з дзяцінства.

Доўгая разлука, амаль паўвека, не спустошыла яго сэрца, наадварот, Бацькаўшчына стала яшчэ мілей. І здзейснілася ў рэшце рэшт доўгачаканая мара — прабегчыся басанож па росных сцяжынках дзяцінства, пастаяць ля падворка бацькоўскага, патрымаць у цёплых далонях запаветны камяк зямлі.

Шмат радасных хвілін перажыў Сцяпан у час сустрэчы з землякамі — родзічамі, аднавяскоўцамі за іх гасціннымі сталамі, ды і на ўлонні прыроды. І як нельга дарэчы быў у той надвячорак бусліны клёкат над пагоркам роднай сядзібы. Менавіта на той покліч буслоў і паспяшаўся Сцяпан на Радзіму. Калі ён даведаўся з нашай газеты аб стварэнні ў Мінску беларуска-амерыканскага самадзейнага тэатра "Бераг белых буслоў", аб тым, што яго жыццядзейнасць падтрымала амерыканская фундацыя імя Пётры Крэчэўскага ў асобе доктара гістарычных навук Янкі Запрудніка і прадпрымальніка Жоржа Навумчыка, спадар Медвядок рашыў унесці і свой уклад. Тым больш, што з мастацкім кіраўніком тэатра, балетмайстрам Мікалаем Котавым, ён быў ужо знаёмы. З той пары, калі той у Амерыцы так плённа працаваў, Сцяпан Медвядок не прапусціў ніводнай рэпетыцыі па вывучэнню беларускіх танцаў. І зараз сам з імпэтам перадае "навуку" заліхвацкай "полькі" сваім суайчыннікам.

І вось новая сустрэча ў Мінску, у беларуска-амерыканскім тэатры "Бераг белых буслоў", на тэатралізаваных відовішчах традыцыйных абрадаў, гулянў, карагодаў, сельскіх пагулянак.

Вусна-паэтычная творчасць стала для тэатра фундаментальнай асновай. Тут прадстаўлены шматлікія жанры, пачынаючы ад песень і прыпевак, да былін і анекдотаў. Народныя каляндарна-абрадавыя святы — велікодныя, пятроўскія, юр'еўскія, жніўныя, вясельныя, радзільныя сталі ўпрыгожваць не толькі мікраараён Малінаўку, дзе тэатр прапісаўся, але і многія іншыя куткі сталіцы.

Тэатр "Бераг белых буслоў" Котава пры непасрэднай матэрыяльнай і матэрыяльнай падтрымцы амерыканскіх сяброўсуайчыннікаў дзень за днём усё больш упэўнена расправіўе крылы.

— Для нас, незалежна ад месца, дзе мы жывём, вельмі важна стаўленне да нацыянальнай культуры, фальклору і ў першую чаргу да мовы, што і пакладзена ў аснову дзейнасці тэатра. Котаў вельмі добра асэнсоўвае запавет Янкі Купалы: родныя песні і роднае слова — калі разумець іх як духоўны набытак і мастацкі скарб нацыі — дапамогуць хутчэй "вывесці Бацькаўшчыну ў людзі", да блізкіх і далёкіх суседзяў, каб у цэлым свеце яе ведалі і шанавалі, паважалі як роўную сярод роўных, — натхнёна разважае спадар Медвядок.

І яшчэ адна акалічнасць у дзейнасці тэатра прывабіла госця. Асноўныя яго ўдзельнікамі з'яўляюцца дзеці з цяжкіх сем'яў — напалову сіроты, падлеткі, зарэгістраваныя ў пакоях міліцыі, школьнікі з шматдзетных сем'яў. Тым не менш, усе яны паказваюць найлепшы прыклад творчай ініцыятывы ў тэатральных дзеях. І мастацкі кіраўнік усяляк падтрымлівае іх — шчодра размяркоўвае гуманітарную дапамогу, па-бацькоўску клапоціцца аб іх летнім адпачынку, за што яму вельмі ўдзячныя школа, сям'я, райвыканком. З яго намеснікам Нінай Гардзюк у Міколы ўсталяваліся самыя найлепшыя ўзаемаадносіны, бо ніводная культурна-масавая мерапрыемства ў маштабе Маскоўскага раёна сталіцы не абыходзіцца без удзелу котаўскага тэатра.

З дабраты сяброў-суайчыннікаў з Амерыкі доктара гістарычных навук Янкі Запрудніка і яго жонкі Надзеі, прадпрымальніка Жоржа Навумчыка, Стасі Сумскіх, Лёні і Лізы Літаровічаў, Стафаніі Міровіч, сям'і Дубягаў самадзейнаму, адзінаму ў сваім родзе, народна-абрадаваму тэатральна-музычнаму калектыву "Бераг белых буслоў" удаецца, дзякуй Богу, быць "на ляту". А ў час апошняга прыезду ў Мінск Сцяпан Медвядок падарваў тэатру нават "Фольксваген" і паабяцаў дапамагаць у аплаце камунальных паслуг памяшкання тэатра, калі выканком стрымае свае слова аб яго ўладкаванні.

Зрэшты, пачэсны госць з Амерыкі, як прыляцеў на крылах буслоў на Радзіму, адправіўся ў свой родны Саўт-Рывер з надзеяй у хуткім часе вярнуцца ў новае гняздоўе котаўскіх беларускіх птушанят.

**Адольф СУРЫНОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Мікалай КОТАЎ (злева) і Сцяпан МЕДВЯДОК у Мінску.**

ЮНЫ КАМПАЗІТАР ДЗІНАРА МАЗІТАВА

# КВЕТКА ПАД ЛІЎНЕМ

НЯДАЎНА ў Гродне ў Новым замку сярод удзельнікаў V міжнароднага конкурсу юных кампазітараў імя Максіма Багдановіча выконвала свае творы лідчанка Дзінара Мазітава. А ў гэты ж дзень у дзіцячай музычнай школе горада Ліды, дзе яна вучылася, уручалі пасведчанні аб заканчэнні выпускнікам, называючы і яе імя. За свае 14 год таленавітая дзяўчынка напісала дзесяткі п'ес, 2 оперы, 3 балеты, стала лаўрэатам сямі прэстыжных міжнародных конкурсаў, што часам не па сілах сталаму кампазітару. Яна аўтар гімна беларускіх татар. Карэнная лідчанка, у родавай галіне якой пераплецены карані татар і рускіх, яна валодае асобым дарам. Аб незвычайных цяці — свет прыроды, пачуццяў, перажыванняў, — пра тое і яе музыка.

Сапраўды, калі Дзінара іграе перад дзіцячай аўдыторыяй, нават не зусім дасведчанай у тайнах музыкі, рэакцыя залы заўсёды адэкватная яе творам. Значыць, яе музыка патрэбная, яна сапраўды з чыстага свету дзіцячай душы. І ў той жа час гэтая музыка заварожвае і больш сталую публіку.

Сваю першую оперу "Кветкі пад ліўнем" па аднайменнай п'есе Ігара Сідарука Дзінара напісала ў 9 гадоў. Не ўсё ў жыцці прадаецца і купляецца за грошы — тэма гэтага музычнага твора. Яна паказала оперу на конкурсе юных кампазітараў "Надзея-93" і стала лаўрэатам. Сімвалічна, прызнаецца, што хацела б, каб у жыцці Дзінара была па-чалавечы шчаслівай. Мела сям'ю, дзяцей, цікавасць да прафесіі, прыносіла карысць людзям. Каб шлях яе жыццёвы быў менш цярністым.

Сама чатырнаццацігадовая Дзінара гаворыць, што не ўяўляе пакуль выразна сваю такую далёкую будучыню. Яна з задавальненнем пры любой магчымасці ходзіць у школу на ўсе ўрокі, хаця ёй прадастаўлена права вольнага наведвання заняткаў. Ёй гэта падабаецца. Вучыцца на выдатна, таму што лічыць, што добрая адукацыя — гэта важна. Іграе сяброўкам свае новыя творы (часта, праўда, даводзіцца па тэлефоне) і шкадуе, што ў сутках так мала часу. Дзінара жыве ў свеце музыкі. Чакае выхаду зборніка сваіх твораў, які будзе называцца, як і адзін з яе балетаў, — "Дзюймовачка". Дзяўчынка радуецца кожнай сустрэчы з людзьмі, калі з імі можа падзяліцца сваім і ўзяць нешта для сябе. Нядаўна адбылася цікавая сустрэча з беларускім паэтам Нілам Гілевічам, які высока ацаніў музыку Дзінары.

здольнасцях Дзінары многа разоў пісалі газеты. У жыцці яна сціплая дзяўчынка-падлетак з каскадам чорных валасоў і глыбокімі чорнымі вачыма.

— У цябе гучнае, незвычайнае імя — Дзінара. А ведаеш ты, чаму цябе так назвалі? — цікаўлюся ў юнай зоркі.

— Гэта, па сутнасці, трэцяе маё імя, — усміхаючыся, гаворыць яна. — Калі я з'явілася на свет, бацькі вырашылі назваць мяне Марта ў гонар бабулі, гэта імя адпавядала і месяцу майго нараджэння. Але ў бабулі быў занадта складаны лёс, што і прымусіла маму з татам перадумаць. Тады я стала на некаторы час Вольгай. І тут мамін сяброўкі выказалі свой важкі аргумент: на іх погляд, усе гераіні вядомых раманаў, у якіх такое імя, нешчаслівыя. Нарэшце тата, узброіўшыся тоўстым слоўнікам імёнаў, знайшоў рэдкае і незвычайнае.

— Дзінара — жаданае дзіця ў сям'і, — працягвае нашу размову яе мама, Святлана Афанасьеўна. — Гэта наша адзіная дачка. І я не хацела, каб яна была музыкантшай, тым больш кампазітарам. Бо гэта вялікая штодзённая праца, якая не заўсёды бывае запатрабаванай. Уся наша сям'я цяпер жыве гэтай працай. Адзінае, пра што я прасіла Бога яшчэ да яе нараджэння, каб дзіця з'явілася на свет фізічна здаровым. Але Бог адарыў і талентам. Ніхто не помніць, што раней навучылася Дзінара рабіць — іграць ці сачыняць музыку. Я яе дзіцем брала да сябе на работу ў музычнае вучылішча. І калі дачка яшчэ зусім малой нечакана пачала выконваць на фартэпіяна закончаныя фразы, вырашылі паказаць яе маяму педагогу Марыі Рачкоўскай. З яе лёгкай рукі Дзінара і стала сур'ёзна займацца музыкай. Дзяўчынцы, я лічу, увогуле шанцавала з педагогамі, не толькі з выкладчыкамі музыкі, але і школьнымі настаўнікамі. У 7 гадоў адбылася яе сустрэча з педагогам, які і цяпер дае свае ўрокі, Віталем Радзівонавым. Ён змог убачыць індывідуальнасць Дзінары. З васьмі гадоў пачалі заняткі кампазіцыяй. Ад простага да складанага ішлі ў музыцы. Што блізка дзі-

што прэм'ера адбылася ў Гродзенскім лялечным тэатры — у тым будынку, дзе 220 гадоў таму назад артысты вядомай капэлы Тызенгаўза ставілі оперныя і балетныя спектаклі. І праз два з лішнім стагоддзі оперны жанр зноў гучаў у Гродне. А неўзабаве опера была пастаўлена ў Беларускім тэатры оперы і балета. Сярод першых выканаўцаў — лаўрэат міжнародных конкурсаў Міхаіл Жылюк, артыстка Беларускага тэатра оперы і балета Алена Казанцава.

Сціплая юная лідчанка ўзляцела на крылах поспеху. Цяжка пералічыць усе конкурсы, дзе яна стала лаўрэатам, атрымала Гран-пры. Свае першыя фартэпіянныя мініяцюры з "Лясной сюіты", напісаныя ўсяго за 3 месяцы, Дзінара прадставіла на рэспубліканскі конкурс юных кампазітараў "Надзея-92" і ўпершыню стала лаўрэатам, заняўшы 3-е месца. Праз два гады да таго ж, але ўжо міжнародным, конкурсу "Надзея-94" Дзінара Мазітава напісала свой першы балет па аднайменнай казцы Андэрсена "Дзюймовачка" і па аддзіндушным меркаванні журы атрымала Гран-пры. За гэты час стала пераможцай абласнога фестывалю "Новыя імёны" як піяністка і лаўрэатам міжнароднага конкурсу імя Клеафаса Агінскага.

У дзесяцігадовым узросце Дзінара дала свой першы аўтарскі двухгадзінны канцэрт. Разам з аўтарам яе творы выканалі артысты опернага тэатра, выхаванкі харэаграфічнага каледжа, выкладчыкі і навучэнцы музычнага вучылішча і школы. Яе чакала перамога на міжнародным музычным фестывалі "Гімн Вялікаму гораду" ў конкурсе "Я — кампазітар", які праходзіў у Санкт-Пецярбургу, і многіх іншых.

Лівень апладысментаў і перамог. Як адчувае пад ім сябе "крохкая кветачка", якая вырасла ў Лідзе?

— Яна не навучана ні маніць, ні хітрыць, — лічыць мама. — Ніколі не скажа "добра", калі гэта дрэнна.

І, не скрываючы матчынай трывогі за далейшы лёс сваёй дачкі, Святлана Афанасьеўна

Сярод твораў Д. Мазітавай ужо ёсць цыкл дзіцячых песень на ўласныя вершы, а таксама вершы беларускіх і рускіх паэтаў, паэта Амара Хаяма. Відаць, гэты напрамак у яе творчасці неўзабаве прынясе і новы плён. Дзінара расце. А нядаўна ў яе жыцці адбылася падзея, якая выпадае на долю далёка не многіх кампазітараў. Дзінара, як лаўрэат міжнароднага конкурсу, прысвечанага 200-годдзю з дня нараджэння А. Пушкіна, іграла ў Вялікай зале Маскоўскай кансерваторыі. Марачы аб сваёй будучыні, яна не спрачаецца з маміным сцвярджэннем аб тым, што простае чалавечае шчасце — гэта важна. Уласна, дзяўчынка лічыць, што менавіта так яна і жыве, з той толькі розніцай, што па жыцці яе вядзе музыка.

Тады на V міжнародным конкурсе юных кампазітараў імя Максіма Багдановіча, што праходзіў у Гродне, Дзінара таксама стала лаўрэатам. На наступны дзень яна адпраўілася ў Мінск на фестываль "Усе мы родам з дзяцінства", плануючы абавязкова паспець на ІІ міжнародны фестываль нацыянальных культур у Гродне.

Адзін з прафесіянальных кампазітараў, віншуючы ў Новым замку юных музыкантаў, калі падводзіўся вынік чарговага конкурсу, шчыра прызнаўся, што стаць прафесійным кампазітарам — значыць, "асудзіць сябе на катаржнае жыццё. Але кожны, хто датыкнуўся да нотнай паперы і знайшоў спосаб самавыяўлення, становіцца ў нечым асаблівым вышэй за многіх сваіх равеснікаў..."

З гэтым сапраўды цяжка спрачацца.

**Алена ТУСЕВІЧ.**
**("Гродзенская праўда").**

1998-мы — ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА

# ПРЫСВЕЧАНА ПАЭТУ

Пад фанфары Міжнароднага фестывалю "Славянскі базар у Віцебску" ў Віцебскім мастацкім музеі была адкрыта экспазіцыя, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча. Выстава падрыхтавана дзякуючы датацыям Дэпартамента музеяў Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы, Аддзялення культуры Ваяводскага ўпраўлення горада Варшавы, Дэпартамента інфармацыі і прамоцыі Міністэрства замежных спраў Польшчы. Сцэнарый экспазіцыі прадумалі Яцэкам Хромай, Эльжбетай Банка-Сітэк. Мастацкае афармленне Лукаша Касоўскага. Камп'ютэрная апрацоўка Паўла Цепляеўскага. Выкананне — Валоўскі і Partners Studio, Варшава. Па сутнасці, прадстаўленыя да прагляду мастацкія плакаты з'яўляюцца скрупулёзнай навуковай працай. Акрамя сцэнак з жыцця Адама Міцкевіча, вобразаў таго часу, тут можна пачуць і цікавыя гісторыі з жыцця паэта.

**Віктар РАМОНКА.**

КРАЯЗНАЎСТВА




# МУЗЕЙ АБНОЎЛЕНЫ



Гэты прыгожы дом, як расказваюць людзі, належаў у даўнія часы багатаму жыхару Нясвіжа. Змены ўладаў, ліхалецце закінулі яго некуды далёка. Мяняліся гаспадары дома, размяшчаліся ў ім то прафесійна-тэхнічнае вучылішча, то вайсковы склад. Нарэшце, дому выпала выконваць высакародную місію — стаць краязнаўчым музеем. За некалькі гадоў сабрана шмат экспанатаў, якія адлюстроўваюць багатую гісторыю горада, яго ролю ў фарміраванні і развіцці беларускай нацыі, мінулае і сучаснае Нясвіжчыны.

Да 775-годдзя Нясвіжа музей абнавіўся. З'явіліся не толькі новыя экспанаты — створаны дадатковыя экспазіцыі, больш кампактнымі, змястоўнымі сталі ранейшыя. У іх ярчэй раскрыта мінулае, наведвальнікі нібы адчуваюць подых стагоддзяў, калі праходзяць па залах музея і агладаюць яго экспанаты.

Не буду паўтараць тое, што расказана ў нядаўнім артыкуле да юбілею горада. Зазначу толькі, што яго значэнне ў развіцці беларускай культуры, архітэктуры, тэатра, музыкі, кнігадруку, літаратуры, іншых галінах дзейнасці грамадства знайшло больш поўнае адлюстраванне. З'явіліся цыклы карцін мастакоў пра падзею, кнігі пісьменнікаў, журналістаў, якія пісалі пра Нясвіж. Несумненна, выкліча цікавасць наведвальнікаў дэманстрацыя твораў мастацтва, якія таможнікі не далі кантрабандыстам вывезці за мяжу.

Афармлены раздзел пра нясвіжцаў, якія вызначыліся ў пасляваенны час. Міхаіла Карвігу з добра ведаў, калі ён некалькі дзесяцігоддзяў узначальваў будаўнічую арганізацыю. Яна ўзвяла прыгожы мікрараён на захадзе горада, пасёлкі гарадскога тыпу Сноў, Аношкі... Пры дырэктарстве Рыгора Зэлікава маслазавод стаў сучасным высокаэфектыўным прадпрыемствам. Яго прадукцыя, смачная, каларыйная, карыстаецца вялікім попытам.

Абноўлены музей дазваляе яго наведвальнікам глыбей пазнаць мінулае і сучаснае аднаго са старажытных і слаўных гарадоў Беларусі.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# «З ДАЗВОЛУ КАРАЛЯ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ»

**У адным з апошніх нумароў "Голасу Радзімы" была змешчана рэцэнзія на кнігу Л. Казлова "З дазволу караля і вялікага князя".**

**Крупінкі гумару і народнай мудрасці са згаданай кніжкі прапануем увазе чытачоў.**

### УСМЕШКІ МІЖ ЛЕТАПІСНЫХ РАДКОЎ

Прайшло ўжо нямала гадоў панавання Ягайлы, калі ён у суправаджэнні Вітаўта накіраваўся на Жмудзь, каб нарэшце ахрысціць мясцовых жыхароў. Кароль стаў, разважаючы пра сэнс веры, павучаць жмудзінаў, якія з'явіліся па яго загаду. Адзін з іх на прамову адазваўся: "Міласцівы кароль, я асабіста згодзен з тым, што ўсе мы ўваскрэснем, але, убачыш, толькі з гэтага аніякага не будзе".

Ёсць старажытная ўсходняя прымаўка: "Сустракаюцца стогадовыя сяляне, не сустрэнеш стогадовага чыноўніка". Такое, відаць, траплялася і ў нас.

Кароль і вялікі князь Аляксандр Ягайлавіч паехаў на паляванне ў Налібоцкую пушчу і сустрэў там лесніка, якому, як казалі, было ўжо даўно за сто, але выглядаў ён даволі маладжава.

— Ці наведвала цябе калі хвароба? — спытаў старога Аляксандр.

— Не, найяснейшы пане. Хвароба не гасціла ў мяне, бо я не меў чым яе частаваць, — адказаў ляснік.

### ПРЫПРАВА ДА ГУМАНІЗМУ

Перад абедам кароль Жыгімонт мыў рукі, зняўшы свае пярсцёнкі, якія даў патрымаць двараніну, што абслугоўваў яго вялікасць падчас туалету. Разважаючы ў думках аб розных справах, кароль забыў пра тыя пярсцёнкі і ні ў гэты дзень, ні пазней не ўспамінаў пра іх. Дваранін зрабіў вывад, што Жыгімонт, відаць, зусім не памятае, дзе падзеліся яго каштоўнасці, а паколькі пры двары аціраецца столькі людзей, то і не трэба аб гэтым напамінаць.

Праз нейкі час той жа дваранін зноў прыслугоўваў каралю. Але Жыгімонт, на руках якога красаваліся ўжо іншыя пярсцёнкі, і не падумаў іх здымаць. А на недаўменны погляд свайго "асістэнта" сказаў: "Для вас дастаткова тых, што вы ўзялі раней, а гэтыя могуць спатрэбіцца каму іншаму".

Блазан старога караля, назіраючы, як таму падчас хваробы ставілі п'яўкі, заўважыў: "Вось гэта сапраўдныя прыдворныя і прыяцелі яго вялікасці".

Малады кароль і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст вызначаўся талерантнасцю, калі не сказаць абыякавасцю, да пытанняў рэлігіі. Не дзіва, што ў гэты час пашырылася Рэфармацыя, якая вельмі непакоіла такіх прадстаўнікоў каталіцкага кліру, як біскуп Зэбжыдоўскі. Каб узмацніць свае пазіцыі, ён заняўся незвычайнай справай: будаваў над Віслай, у мястэчку Гара, кальварыю ў іерусалімскім стылі. І для гэтай новабудоўлі загадаў прывезці з Палесціны сапраўдную святую зямлю.

Неяк Зэбжыдоўскі сутыкнуўся з Жыгімонтам Аўгустам, які спытаў яго, што чуваць з будаўніцтвам кальварыі.

— О, справа ідзе паспяхова, міласцівы пане, — жвава адгукнуўся біскуп, — кажуць, у Гданьск прыйшоў карабель са святой зямлёю.

— Мне здаецца, — заўважыў кароль, — лепш было б прывезці добрай чорнай зямлі з украінскага Падняпроўя ды палепшыць мазавецкія пяскі.

— Бачу, наш ягамосць найяснейшы гаспадар не ахвочы разважаць аб справах веры.

— Не ахвочы, — пацвердзіў Жыгімонт Аўгуст, — разважаю толькі ў касцёле, звяртаючыся да Бога, і то — зусім нямнога.

Стэфан Баторы, апрача роднай венгерскай мовы, дасканала валодаў лацінскай, але ніводнай з моў сваёй новай дзяржавы так і не засвоіў. Аднойчы, размаўляючы з архібіскупам львоўскім, ён насмешліва заўважыў:

— Цікава, як гэта, не ведаючы дастаткова лаціны, можна стаць каталіцкім архібіскупам?

— Таксама, як, не ведаючы польскай мовы, можна стаць каралём Рэчы Паспалітай, — адпарыраваў клірык.

Кажуць, калі Стэфан Баторы дазнаўся пра вялікія ахвяры з абодвух бакоў падчас доўгай вайны з Масковіяй, то паслаў Івану Жахліваму ліст з прапановай сустрэцца ў чыстым полі і самнасам вырашыць "лівонскую спрэчку". Цар не надта верыў у свае фехтавальныя здольнасці, таму выклік адхіліў, матывуючы тым, што кароль, якога абралі, яму, гаспадару ўсяе Русі, дзядзічнаму Рурыкавічу, не раўня. "Зусім наадварот, — адзначыў Баторы, — бо ён створаны царом у лоне жанчыны, а я стаў каралём на полі бітвы".

## «КАЗКІ НАРОДАЎ ЕЎРОПЫ»

Група юных мастакоў і выкладчыкаў Магілёўскай дзіцячай мастацкай школы прыняла ўдзел у першым міжнародным пленэры "Казкі народаў Еўропы", які праходзіў на працягу двух тыдняў у нямецкім горадзе Вітэнбергу. Запрашэнне паступіла ад нямецка-расійскага таварыства дружбы. Разам з равеснікамі з Германіі, Венгрыі, Славакіі магілёўскія юнакі прыдумвалі і малявалі казачных герояў. Работы юных мастакоў з Магілёва, выкананыя ў час пленэру, а таксама 30 малюнкаў, прывезеных хлопчыкамі і дзяўчынкамі ў Германію, былі выстаўлены ў мастацкай галерэі Лукаса Кранаха. Пасля завяршэння пленэру 15 аўтарскіх работ былі падараваны фонду развіцця пленэру. Работы гэтыя будуць экспанавацца па ўсёй Германіі.

## ЗАЎВАЖАЕМ ДОБРАЕ

Такую назву носіць альманах, што пачаў выдавацца ў ліцэі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. З вершамі і прозай у першым выпуску выступаюць 16 ліцэістаў. Пішуць юнакі і дзяўчаты па-беларуску і па-руску. Выдадзены альманах тыражом 280 экземпляраў. Аддрукаваны "Nota bene" (што ў перакладзе з латыні азначае "заўваж добра") у выдавецкім цэнтры БДУ.

Пра што творы юных паэтаў і празаікаў? Пра наш час, пра трывогі і сумненні свайго пакалення, пра Беларусь.

Намеснік рэдактара
Дзіяна ЧАРКАСАВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 1389.
Падпісана да друку 10. 08. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.